ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 363 Год выд. XXXVIII | Кастрычнік 1989

## ПАРК НА ЛЮДЗКІХ КАСЬЦЯХ



Парк імя Чалюскінцаў у Менску, дзе знаходзяцца масавыя магілы ахвяраў сталінізму.

Выдаваны ў Латвіі расейскамоўны пэрыёдык «Атмода» («Адраджэньне») ў нумары за 2 кастрычніка сёлета зьмясьціў матар'ял беларускага пісьменьніка й падпалкоўніка юстыцыі ў адстаўцы Васіля Хомчанкі (год нар. 1919) пад заг. «Пагулянка па парку з пракурорам» (гутарка пра парк імя Чалюскінцаў у Менску). У нататцы да матар'ялу зазначаецца, што «Гэты артыкул павінен быў быць апублікаваны 2.IX.88 г. ў тыднёвіку 'Літаратура і мастацтва' — органе Міністэрства культуры і праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР. Але набор быў раськіданы. Рэдкалегія часапісу 'Гражданин' чакала год, спадзяючыся, што артыкул усё-ж будзе апублікаваны. На жаль!»

У артыкуле Хомчанка расказвае пра гутарку із сваім суслужыўцам і добрым сябрам, таксама падпалкоўнікам юстыцыі ў адстаўцы, Міхалам Абрамовічам. На працягу даўгіх гадоў, калі яны — Абрамовіч як пракурор, а Хомчанка як судзьдзя трыбуналу — сябравалі, яны замоўчвалі кожны сваю таямніцу: Хомчанка аб тым, што ён быў у 1937 годзе арыштаваны як «вораг народу», а Абрамовіч — што ён гэткіх «ворагаў народу» вазіў «чорным воранам» на расстрэл у прыгарадны менскі лес, дзе сёньня знаходзіцца парк Чалюскінкаў. Фактам гэтага аўтарытэтнага выкрыцьця яшчэ адных Курапатаў у сталіцы рэспублікі і тлумачыцца цэнзурная забарона газэце «ЛіМ» публікаваць матар'ял.

Між іншага, Хомчанка ў сваім артыкуле, пералічаючы беларускіх паэтаў, зь якімі яму давялося сядзець у падвале менскае турмы (ля вакон якое хадзіў, тады вайсковы вартаўнік, Міхал Абрамовіч), называе і Масея Сяднёва — «студэнта пэдінстытуту, таленавітага хлапца». «Камэра нашая, — піша Хомчанка, — разьлічаная на чатырох, зьмяшчала тады цэлых дзесяцёх чалавек. Ня было чым дыхаць, вось і йшла пара з вакенца, як з лазьні. З гэных зьняволеных аднакамэрнікаў выжылі я й Масей. Рэшту расстралялі».

Вось што расказаў Васілю Хомчанку пра сябе Міхал Абрамовіч:

— Я ня толькі вартаваў турму і канваіраваў арыштаваных, але рабіў і яшчэ штосьці страшное. Да арміі я навучыўся езьдзіць аўтамабілем. І вось аднойчы мне мой начальнік кажа: «Шофэр спэцмашыны захварэў, трапіў у шпіталь. Пакуль ён хварэе, ты часова заменіш яго — сядзеш за руль. Я — баец радавы, загад ёсьць загад. Сеў за руль гэтае спэцмашыны, якую ў народзе празвалі «воранам» або «хапуном». Уначы я падганяў яе да нейкага дому, адтуль выводзілі аднаго ці колькі арыштаваных, садзілі ў «ворана», і я адвозіў у турму, у тыя самыя падвальныя камэры, дзе ты сядзеў, або ў «амэрынкаку» — круглую гэткую турму-вежу, пабудаваную на амэрыканскі ўзор.

Аднак гэта ня самае страшное.

Страшна было, калі павёз у гэтым «воране» ўначы людзей на расстрэл. Колькі іх набілі ў машыну, ня ведаю,

(Працяг на 8-й б.)

## ЗВАРОТ

**Першагіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Архіепіскапа Мікалая да беларускае эміграцыі аб дапамозе суродзічам-ахвярам Чарнобыльскае катастрофы.**

*«Ідзі і ты рабі гэтак».*
(Лк 10:37)

Дарагія ў Хрысьце Браты й Сёстры!

Атамны пажар на Чарнобыльскай АЭС, што здарыўся 26 красавіка 1986 году, спрычыніў нязьлічоныя страты й пакуты тысячам а тысячам жыхароў Беларусі, і нямаведама, калі гэтыя страты й пакуты скончацца. Людзі, што ўцярпелі ад Чарнобыля, патрабуюць матар'яльнай і маральнай дапамогі з усіх магчымых бакоў, у тым ліку й ад нас, выхаджэнцаў зь Беларусі. Чарнобыльская катастрофа жудасная тым, што на цэлыя дзесяцігодзьдзі страчаныя і жытло і зямля. Дзясяткі тысячаў людзей ня могуць вярнуцца ў родныя мясьціны, а там, дзе людзі засталіся жыць ды дзе апынуліся некаторыя перасяленцы, таксама бяда: страчаная чысьціня паветра й прыроднага наваколься, страчаная радыяцыйная «чысьціня» ежы. Няшчасьце фізычнае дапоўненае пакутамі духовымі, бо людзі ня маюць пэўнасьці што да пэрспэктывы на нармальнае здароўе для сябе самых і для сваіх нашчадкаў.

Ад нас, землякоў сваіх, якім Бог дапамог жыць у абставінах матар'яльнага дастатку, ахвяры Чарнобыля чакаюць дапамогі. Дапамога патрэбная фінансавая й тэхнічная. Патрабуюцца перш-наперш радыяцыйна-вымяральныя апараты, дазімэтры асабістыя й груповыя, каб можна было ўстанаўляць вышыню радыяцыйнага фону, ступень заражанасьці радыяцыяй наваколля й рэчаў асабістага ўжытку, харчоў. Патрабуецца й больш складаная апаратура для шпіталёў, мэдыкамэнты. Некаторыя з гэтых рэчаў можна набыць толькі вонках СССР за цьвярдую валюту.

Сотні тысячаў людзей на Гомельшчыне, Магілеўшчыне ды, магчыма, у іншых частках Беларусі апынуліся ў палажэньні таго падарожнікка, абрабаванага, пабітага й кінутага ляжаць уздоўж дарогі, пра якога нам апавёў евангеліст Лука ў прыпавесьці пра добрага Самараніна (Лк. 10:30-37). Дык будзьма-ж, дарагія мае, добрымі Самаранінамі ў дачыненьні да суродзічаў нашых. Паклапацемся аб іх, працягнем ім руку спагады й дапамогі. Памятайма, што вера бяз учынкаў мёртвая. І патрыятызм таксама.

Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» зьвярнуўся да ўсіх нас з просьбаю аб дапамозе ахвярам Чарнобыля. Наш маральны й зямляцкі абавязак адгукнуцца на гэтую просьбу. Няхай-жа сярод нас, дарагія мае, ня будзе нікога, хто-б ня прыйшоў з дапамогай нашым суродзічам у гэтай вялікай патрэбе. Будзьма спагадлівымі й шчодрымі! Сьвятая Царква нашая вучыць: накармі галоднага, напаі сасмаглага, заапякуйся хворым, падзяліся маемасьцяй сваёй з тым, хто патрабуе дапамогі.

Дык памажэм людзям сваім у іхнай вялікай бядзе, і Бог узнагародзіць нас за гэта ласкаю Сваёю.

**Архіепіскап Мікалай**
**Першагіерарх БАПЦ**

## МАСАВАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў МЕНСКУ

Заходнія газэты падалі 2 кастрычніка паведамленьне агенцтва Ройтэра пра масавую дэманстрацыю ў Менску ў сыботу 30 верасьня, арганізаваную Беларускім Народным Фронтам. У дэманстрацыі ўзяло ўдзел больш за 15 тысячаў асобаў, незважаючы на праліўны дождж і на тое, што ня было на яе афіцыйнага дазволу. На фатаздымку, які зьмясьціла лёнданская газэта «Індэпэндэнт», відаць маса нацыянальных сьцягоў, Пагоня, транспаранты, на адным зь якіх напісана «Божа, багаславі Беларусь!»

Навуковец Артур Ляковіч, сказаў Ройтэру, што Беларусы — «найбольш апрамененыя радыяцыяй людзі сьвету».

На прэсканфэрэнцыі таго-ж самага дня навукоўцы й актывісты БНФ заявілі, што ўсё жыхарства рэспублікі апынецца ў жудасным становішчы, калі ня будуць параблены адпаведныя захады, каб перасяліць людзей — паўміліёна асобаў — з заражаных радыяцыяй раёнаў.

На наступны дзень у перапоўненым людзьмі менскім Кальварыйскім касьцеле, з сотнямі вернікаў надварэ, шмат хто з жалобнымі павязкамі на рукаве, сьвятар Ян Адамовіч, прамаўляючы папольску й пабеларуску, заклікаў людзей памятаць пра тых, хто пакутуе ад чарнобыльскае катастрофы.

### НАРАСТАНЬНЕ СЭПАРАТЫЗМУ

Паводля газэты «Вашынгтон Пост» (23.VII.89), «сэпаратыстычныя элемэнты набываюць моцы на Украіне, Беларусі і ў Малдавіі». Рухі гэтыя, паводля газэты, «натхняюцца экспэрымэнтамі із свабодай у Польшчы й Вэнгрыі».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# КАНЧАЛЬНАЯ ПРАГРАМА БНФ

У гэтым нумары «Беларуса» зьмешчаная апошняя частка «Матар'ялаў да праекту праграмы Беларускага Народнага Фронту за перабудову 'Адраджэньне'» (пачатак у № 359). У міжчасе ў Менску, самвыдавецкім спосабам, выйшаў канчальны тэкст Праграмы БНФ, прыняты на ўстаноўчым зьезьдзе 24-25 чэрвеня сёлета. Якая розьніца паміж «матар'яламі да праекту» і канчальным тэкстам? Паспрабуем коратка адказаць на гэтае пытаньне.

Канчальны тэкст перш-наперш карацейшы, адрэдагаваны: выпушчаныя некаторыя нерэалістычныя абяцаньні й дамаганьні, паслабленыя да пэўнай ступені канфрантацыйнасьць з рэспубліканскай уладаю і выклік маскоўскаму цэнтру; канчальны дакумэнт атрымаўся больш прадуманы і ўраўнаважаны, рэалістычнейшы.

Найбольш перапрацаванымі выглядаюць разьдзелы пра эканоміку й экалёгію. У Праграме няма ўжо ранейшае заявы, што «БНФ падтрымлівае **любыя формы ўласнасьці**, у тым ліку на сродкі вытворчасьці». Як і ў праекце, права ўласнасьці на зямлю Праграма не прадбачыць. Недалёка пайшла Праграма і ў кірунку да эканомікі вольнага рынку. У пункце 2-м Праграмы гаворыцца пра «**плянава-рэгуляваную** рыначную сыстэму». Там, дзе «плян» — улічваючы савецкую практыку й традыцыю — там індывідуальныя эканамічная ініцыятыва шырока не разгорнецца. Усё гэта паказвае, што рэвалюцыі ў эканамічным мысьленьні БНФ не адбылося. Цяжка сказаць, што тут перамагло — рэалізм ці традыцыйная беларуская звышасьцярожнасьць. У кожным выпадку, некаторыя дзеячы перабудовы (прыкладам, Алесь Адамовіч) у пытаньні права ўласнасьці селяніна на зямлю прапануюць шмат радыкальнейшыя зьмены.

Дарэчы, не перайшло з праекту ў канчальны тэкст Праграмы і права спадчыны на арэндаваную зямлю. Украненьня псыхалёгіі ўласьніка (гаспадара) зямлі БНФ, такім чынам, не прадбачыць.

У разьдзеле «Дэмакратыя. Правы чалавека» вельмі важным дататкам сталася прапанова прыняць закон аб прафсаюзах, «якія-б гарантавалі свабоду ўтварэньня і самастойнасьць такіх арганізацыяў у Рэспубліцы».

Істотна скарочаныя таксама разьдзелы «Нацыянальнае пытаньне» і «Культура» за кошт гістарычных экскурсаў і палемічных элемэнтаў.

У разьдзеле «Мова», часткава скарочаным таксама, зробленыя важныя дадаткі: «Неабходна імкнуцца да таго, каб беларуская мова сталася сродкам міжнацыянальных зносінаў у межах Рэспублікі». Дададзена таксама дамаганьне, каб беларуская мова была ўведзеная «ў якасьці рабочай мовы і мовы дакумэнтацыі дзяржаўных установаў».

Такім чынам, Праграма БНФ удакладненая, удасканаленая і, бясспрэчна, станецца аб'ектам дэбатаў, што паступова разгортаюцца цяпер у Беларусі ў сувязі з выбарамі у рэспубліканскі Вярхоўны Савет, якія адбудуцца недзе на пачатку наступнага году.

Паколькі канчальны тэкст Праграмы БНФ выпрацаваны, выдавецтва «Беларус», замік публікаваньня асобнай брашуры «Матар'ялаў да праекту», пляную выдаць факсымільны адбітак машынапіснага тэксту Праграмы БНФ (36 бачынак).

### «БЕЛАРУСКАЕ АБУДЖЭНЬНЕ»

Пад гэткім загалоўкам часапіс Інфармацыйнага Агенцтва ЗША Problems of Communism (№ 4, 1989) зьмясьціў вялікі артыкул рэдактара «Беларуса» др. Янкі Запрудніка пра нацыянальнае адраджэньне на Беларусі, што набірае сілы апошнімі гадамі. У артыкуле, грунтоўна ўдакумэнтаваным на афіцыйных і самвыдавецкіх крыніцах, прасочваецца запачаткаваньне руху нефармальных гуртоў моладзі, паўстаньне Беларускага Народнага Фронту, «Мартыралёгу Беларусі», уплыў на гэтыя падзеі Чарнобыля й Курапатаў, змаганьне партапарату з рэфарматарамі, паглыбленьне нацыянальнае сьведамасьці Беларусаў. Падзеі апісаныя ад вясны 1985-га да канца чэрвеня сёлетняга году.

Адбітак артыкулу можна дастаць у рэдакцыі «Беларуса».

## ФІНАНСАВАЯ АЎТАНОМІЯ БССР

Саюзны ўрад прыняў дэкрэт аб пераводзе Беларускай ССР, пачынаючы ад 1 студзеня 1990 году, на гэтак званы гасразьлік (гаспадарчы разьлік), які будзе даваць Менску большае права самому весьці фінансавую гаспадарку. На гасразьлік пераходзіць у тым самым часе тры рэспублікі Прыбалтыкі й часткі РСФСР. Гэта першы такі крок да большае аўтаноміі саюзных рэспублікаў. Балцкім рэспублікам аднак, відавочна ў выніку іхных напорнейшых дамаганьняў і мацнейшага падтрыманьня з боку Захаду, дадуцца большыя правы, як Беларусі.

## ПАДТРЫМАНЬНЕ КАНДЫДАТУРЫ ДЖ. ФЛЁРЫЁ

У штаце Нью-Джэрзы перавыбіраецца губэрнатар. Беларусы Нью-Брансьвіку й ваколіцаў стварылі камітэт для падтрымкі кандыдатуры кангрэсмэна-дэмакрата Джыма Флёрыё.

Камітэт «Беларусы-Амэрыканцы за Флёрыё» (старшыня к-ту Васіль Русак, заст. старш. Юрка Азарка, сакратар Лявон Шурак, сябры Надзя Кудасава й Пётра Кажура) выдаў паангельску й пабеларуску лістоўкі з заклікам галасаваць у выбарах 7-га лістапада за Джыма Флёрыё. Аргумэнты ў карысьць Флёрые: ён вельмі дбае аб захаваньні чысьціні навакольнага асяродзьдзя, пра што красамоўна сьветчыць ягонае галасаваньне ў Кангрэсе; ён рупіцца аб ахове здароўя старэйшых грамадзянаў, імкнецца спыніць рост падаткаў і абніэіць іх, а таксама панізіць страхоўку на аўтамабілі і добра разумее этнічныя праблемы штату, у часе службы ў Кангрэсе «быў уважлівым і дапаможным у нашых справах і нашых просьбах».

## ЗА ЦЯСЬНЕЙШУЮ СУВЯЗЬ ПАМІЖ ЗША ДЫ УССР І БССР

Газэта «Чыкага трыбюн» (19.VIII) зьмясьціла допіс праф. палітычных навукаў Васіля Маркуся, які аргумэнтуе за тое, каб Злучаныя Штаты ды іншыя заходнія дзяржавы намагаліся ўзмоцніць статус савецкіх рэспублікаў праз пашырэньне дыпляматычных і гандлёвых сувязяў зь імі. Трэба аднавіць справу заснаваньня ў Кіеве амэрыканскага консуляту, піша праф. Маркусь, а таксама амэрыканскія консуляты маглі-б быць адчыненыя ў Вільні, Менску і Ерэване. Разам з тым, на думку аўтара допісу, Вашынгтон мог-бы націскаць на Маскву, каб Украіне й Беларусі, як членам ААН, была дадзеная большая міжнародная роля. «Толькі гэткім чынам, — піша праф. Маркусь, — Савецкі Саюз здолее лібэралізавацца і быць прынятым, як кажа Прэзыдэнт Буш, 'у супольнасьць народаў'».

## МЕНСКІ МУЗЭЙ ПРОСІЦЬ ЭМІГРАНЦКІХ КНІЖАК

У лісьце да газэты «Беларус», датаваным 24 ліпеня сёлета, навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музэю гісторыі беларускай літаратуры ў Менску сп. Алесь Бяляцкі, ён-жа сябра Сойму БНФ «Адраджэньне», просіць прысылаць кнігі ў арганізоўваны цяпер літаратурны музэй, у якім, піша Бяляцкі, «трэба каб была *уся* беларуская літаратура». І тут-жа дадае: «Зараз, у сувязі з пацяпленьнем ідэалягічнага клімату на Беларусі (будзем спадзявацца, незваротным) урэшце пачалі гаварыць, што і беларуская эміграцкая літаратура — частка агульнай беларускай літаратуры, галіна аднаго дрэва».

Аўтар ліста зазначае, што азнаёмленасьць з эміграцкай літаратурай у БССР невялікая. Яму самому, кажа ён, даводзілася чытаць Р. Крушыну, Н. Арсеньневу, М. Кавыля, С. Станкевіча, К. Акулу. «Вельмі цікавіцца, творчая моладзь, — піша Бяляцкі, — вершамі Н. Арсеньневай ды Я. Юхнаўца».

У канцы ліста пададзены адрас, на які просіцца слаць публікацыі (і, пэўна-ж, ня толькі бэлетрыстыку, а і ўспаміны, гадавікі газэтаў, часапісаў, у якіх згадваюцца літаратары:

220029, Мінск
вул. Горкага, 14 а
Дзяржаўны музэй гісторыі
беларускай літаратуры

## АЎТАНОМІЮ БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Старшыня Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства праф. Аляксандар Баршчэўскі (паэт Алесь Барскі) на ваяводзкім пленуме Польскай Задзіночанай Работніцкай Партыі (кампартыя Польшчы) выставіў «прапанову аб стварэньні ўва ўсходняй частцы (Беластоцкага) ваяводзтва беларускае аўтаномнае акругі з усімі пасьлядоўнымі вынікамі, як прыкладам абавязковым навучаньнем беларускае мовы». Паводля газэты «Кур'ер Подляскі» (30.VIII), прапанова Баршчэўскага сталася «кіём у муравейніку» — колькі асобаў выступілі катэгарычна супраць прапановы Баршчэўскага.

**Пленум прыняў тры пастановы ў грамадзка-палітычных пытаньнях, зь якіх адна датычыла да нацыянальнага пытаньня, але газэта не падала, што сталася з прапановай беларускага прадстаўніка.**

## ВЕЧАР Г. БУРАЎКІНА І В. ДАШУКА

Захадамі праф. Томаса (Тамаша) Бэрда, выкладчыка Гарадзкога Унівэрсытэту гор. Нью-Ёрку й вялікага прыяцеля Беларусаў, быў наладжаны 5-га кастрычніка літаратурны вечар Генадзя Бураўкіна. Адзначаючы замацаваную ўжо традыцыйнасьць гэткіх сустрэчаў з прадстаўнікамі беларускай культуры, у сваім уступным слове пабеларуску праф. Бэрд сказаў: «Мы нязвычайна радыя дарагім гасьцям. Сёньня, калі дачыненьні паміж Вашынгтонам і Масквою пераходзяць ад дыялёгу да супрацоўніцтва, няхай кантакты паміж Нью-Ёркам і Менскам таксама пераходзяць ад дыялёгу да супрацоўніцтва. Наш вечар сёньня гэткім і будзе — вечарам плённага супрацоўніцтва».

Генадзь Бураўкін, выдатны паэт, займае таксама становішча старшыні Дзяржтэлерадыё БССР. Ён прыбыў у Нью-Ёрк у складзе дэлегацыі на Генэральную Асамблею ААН.

Прадстаўніком Беларусі на Асамблею прыехаў таксама Віктар Дашук, кінарэжысэр і сцэнарыст, заслужаны дзеяч мастацтва БССР. На вечары меў быць паказаны Дашуковы фільм пра чарнобыльскую катастрофу на Беларусі. На жаль, паказу не адбылося дзеля нястачы адпаведнага пражэктара (амэрыканскія прафэсійныя фільмы робяцца на шырэйшай плёнцы).

Запрошаныя на вечар мясцовыя Беларусы й Амэрыканцы зь вялікай цікавасьцяй выслухалі ў аўтарскім выкананьні паэзію Генадзя Бураўкіна, які ня толькі піша цудоўна, але й чытае свае творы з пачуцьцём, выразнай дыкцыяй і драматычнай падачай. Бураўкін — паэт шырокага тэматычнага дыяпазону, вельмі лірычны, музыкальны, глыбака патрыятычны.

Падборку свае паэзіі аўтар скончыў вершам («Я ня га́ню землі чужыя...»), які сьпявак-кампазытар Лёня Барткевіч паклаў на музыку ды разам з Данчыкам насьпяваў на новым альбоме (кружэлка й касэта) «Мы адной табе належым...»; песьня канчаецца словамі:

І якія-б шляхі ні схадзіў я,
Кліча полацкая сенажаць...
А калі не сьпяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул сьпяваць?

Пасьля чытаньня сваіх твораў госьць адказаў на пытаньні слухачоў, якіх цікавілі ў асноўным поступ перабудовы, галоснасьці, беларусізацыі школьніцтва, стаўленьне самога Бураўкіна да Беларускага Народнага Фронту. Паэт-дыплямат адказаў на ўсе пытаньні разгорнута й шчыра, выявіўшы ня толькі такт, але й палітычны розум ды ўсьведамленьне складанасьці сучаснага палажэньня.

Паколькі паказу фільму пра вынікі Чарнобыля на Беларусі не адбылося, кінарэжысэр Віктар Дашук меў нагоду — і людзі былі радыя ёй — шырэй расказаць пра сябе й сваю працу на кінастудыі «Беларусьфільм», дзе ён працуе ад 1960 году. За гэты час сп. Дашук стварыў дзясяткі фільмаў, галоўна на тэмы мінулае вайны, а таксама пра сувязь чалавека зь зямлёй, з бацькаўшчынай. У артыкуле пра яго ў «Энцыклапэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (1985 г.) названыя 35 гэткіх фільмаў.

Віктар Дашук паходзіць з Хойніцкага раёну, заражанага цяпер чарнобыльскай радыяцыяй. З болем гаварыў ён пра гэты факт, і слухачы шкадавалі, што не давялося пабачыць адлюстраваньня гэтага няшчасьця ў ягоным дакумэнтальным фільме.

*З жыцьця ў Лёндане (Анг.)*

## УШАНАВАНЬНЕ ВЕРЫ РЫЧ

У нядзелю 17-га верасьня ў царкве Сьв. апосталаў Пятра й Паўла ў Марыянскім Доме на багаслужбе, апрача мясцовых прыхаджанаў, было чатырох гасьцей зь Беларусі. У часе багаслужбы а. Аляксандар Надсон прывітаў сп-чну Веру Рыч зь ейным днём народзінаў і выказаў ёй глыбокае прызнаньне за ейную шматгадовую (панад 30 гадоў) працу на карысьць беларускай культуры. Цяпер няма таго тыдня, каб у англамоўным друку не зьявілася такая ці іншая вестка з жыцьця на Беларусі, і гэта ў бальшыні выпадкаў — заслуга Веры Рыч. Вера Рыч поўнасьцяй аддалася справе беларускай культуры. Асабліва вялікія й трывалыя ейныя заслугі ў галіне перакладу ў англьскую мову твораў беларускае паэзіі й прозы.

Дзейнасьць Веры Рыч ведамая ды цэніцца й на Бацькаўшчыне, і гэта не выпадкова, што пасьля багаслужбы госьць з БССР, беларускі пісьменьнік Адам Мальдзіс, узнагародзіў Веру мэдалём Кастуся Каліноўскага і Уладзімера Караткевіча ды падарыў ёй даўгапісныя алавікі, «каб надалей пісала», як зазначыў госьць. Прадстаўнік таварыства «Радзіма» Анатоль Абрамчык таксама перадаў юбілярцы мэдалі, выпушчаныя да 150-годзьдзя Каліноўскага; 500-годзьдзя Францішка Скарыны, мэдалі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Менску й Хатыні, а пры гэтым і падарунак — настольную аздобу.

Адам Мальдзіс падарыў таксама некаторым Беларусам значкі нацыянальнае эмблемы: на белых палёх жэтону (дыямэтрам 3 цм) напіс «Жыве Беларусь», а на чырвоным — Пагоня.

На заканчэньне нефармальнай сустрэчы Вера Рыч сказала, што сярод Беларусаў яна адчувае сябе, як у сваёй сям'і.

**А. Здановіч**

## *ФІЛЬМЫ В. ДАШУКА Ў ААН*

6-га кастрычніка ў памешканьні бібліятэкі імя Гамэршэльда, што пры галоўным будынку ААН, місія БССР наладзіла паказ двух фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм»: адзін фільм («Лявоніха, душа ласкавая») пра танцавальное мастацтва Беларусі, паказанае часткава на фоне прыроды краю, другі («Ня плачце па мне«) — пра мастака-неканфарміста Аляксандра Ісачова, ягонае трагічнае жыцьцё (гл. «Беларус» № 315, студз. 1984).

На вечары быў аўтар абодвых фільмаў, заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі Віктар Дашук. Сп. Дашук у кароткім выступленьні перад пачаткам сэансу расказаў (празь перакладчыка) пра беларускі кінэматограф і свае фільмы. Збор з продажу білетаў будзе перададзены ў фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля.

### *МАСКОЎСКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ*

На ўстаноўчым сходзе Беларусаў — жыхароў сталіцы СССР — створана Маскоўскае таварыства беларускай культуры, якое прыняло імя Францішка Скарыны (МТБКС). Мэта арганізацыі — выхаваньне ў Беларусаў (іх у сталіцы каля 60 тысячаў) павагі да нацыянальнай мовы, культуры, гісторыі Беларусі... У праграмных кірунках работы таварыства — курсы, гурткі, клясы беларускай мовы, народны ўнівэрсытэт гісторыі Беларусі.., а таксама выпуск пэрыядычнага выданьня». (*«Беларуская мова і літаратура ў школе»*, 1989, № 4)

### *ДАНЧЫК У МЕНСКУ*

Газэты «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная зьмена», «Советская Белоруссия» ды інш. зьмясьцілі паведамленьні аб прыездзе ў Менск Данчыка, апублікавалі здымкі сьпевака й інтэрв'ю зь ім. Данчык, які паехаў у СССР разам з маці наведаць сваякоў, даў у Менску прынамся тры вялікія канцэрты (спачатку было заплянавана два, але адразу-ж выявіўся дэфіцыт на білеты). Паэт Сяргей Панізьнік прысьвяціў амэрыканска-беларускаму барду верш, зьмешчаны ў «ЛіМе».

Данчыкам у часе ягонага побыту ў Беларусі заапекаваліся ягоныя сябры-сьпевакі-барды Лявон Барткевіч і Сяржук Сокалаў-Воюш.

## *ВЫСТАЎКА МАЛЮНКАЎ ГАЛІНЫ РУСАК*

У ведамай галерэі гор. Нью-Ёрку Сого-20 (69 Broome St., Manhattan; тэл.: 212-226-4167) адбудзецца ад 14 лістапада па 9 сьнежня выстаўка абразоў мастачкі Галіны Русак. У прэсавым камунікаце галерэі сказана: «Выбраныя раньнія творы мастачкі дапоўненыя новымі ў гэтай вельмі вымоўнай рэтраспэктыўнай выстаўцы. Малярка дае поўную свабоду сваёй мастацкай уяве ў тварэньні матываў і ўжываньні калёраў, выкарыстоўваючы сымбалі старадаўных беларускіх народных песьняў, мастацтва й літаратуры: васількі, шыпшына, буслы, зубры. Калёры сягаюць ад адгатонна шэрых і земляных да вясёлкава зыркіх і пышных.

«Творчасьць Галіны Русак угрунтаваная на прынцыпе, што мастацтва, якое бярэ свае вытокі ў народных традыцыях, нагэтульки-ж дзейснае й пэтрэбнае, як і канструкцыі, створаныя з прамысловага матар'ялу. У абодвух жанрах выяўляецца жыцьцё й навакольле».

Галіна Русак, якая працуе ў бібліятэцы Ратгерскага Ўнівэрсытэту, піша на тэмы мастацтва. Апошні ейны артыкул напісаны пра амэрыканскіх мастачак, народжаных пасьля 1900 году.

Прыняцьцё з нагоды адчыненьня выстаўкі адбудзецца ў галерэі ў суботу 18-га лістапада ад 3-й да 6-й папаўдні.

## НОВЫЯ БІСКУПЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Разам з агульным адраджэньнем рэлігійных настрояў на Беларусі актывізуецца й арганізацыйная дзейнасьць як праваслаўнай, гэтак і каталіцкай цэркваў.

Сынод Рускай Праваслаўнай Царквы аднавіў тры старадаўныя катэдры: Полацкую й Віцебскую, Магілеўскую й Мсьціслаўскую ды Пінскую й Берасьцейскую. Хіратонія біскупа для найстарэйшае зь іх, Полацка-Віцебскае, адбылася 23 ліпеня ў Жыровіцкім манастыры. У хіратоніі ўзяў удзел Патрыярх Антыяхійскі Ігнат IV. На пачатку жніўня ў катэдральным саборы ў Менску Патрыярх Ігнат IV хіратанізаваў біскупа на катэдру Магілеўска-Мсьціслаўскую.

У Рыме-ж 20 кастрычніка Папа Ян Павал II высьвяціў чатырох біскупаў, адным зь якіх быў Тадэвуш Кандрусевіч, прызначаны Ватыканам раней сёлета ўзначальваць каталіцкія парафіі ў Беларусі.

### БЕЛАРУСКІЯ ТАВАРЫСТВЫ Ў СССР

**У Савецкім Саюзе вонках БССР існуюць беларускія таварыствы ў Вільні, Рызе, Таліне, Маскве, Ленінградзе, Новасібірску «і іншых гарадох», паводля «Голасу Радзімы» (27.VII.89).**

## ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ




*Частка беларускае групы ў парадзе сьцягоў. Фота Н. Кудасавай.*

У сыботу й нядзелю 23-24-га верасьня беларускія арганізацыі ўзялі ўдзел у 11-ым гадавым фэстывалі нацыянальнасьцяў у горадзе Джэрзы-Сіты, непадалёку ад Статуі Свабоды. Традыцыйна ўрачыстасьці пачынаюцца парадам нацыянальных сьцягоў. У сёлетнім парадзе ўдзельнічалі беларускія арганізацыі: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Кангрэсавы Камітэт, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Згуртаваньне Жанчынаў ды Беларускае Мастацкае Таварыства. Па парадзе сьцягоў адбылася цырымонія складаньня прысягі «новымі Амэрыканцамі». Выставачныя стэнды беларускае групы ўключалі мноства вырабаў вязаньня, разьбы, кэрамікі ды вышываньня. Сп-ні Надзя Кудасава й Тамара Кольба дэманстравалі прадзеньне й пляценьне паясоў. Было выстаўлена шмат беларускіх кніжак ды інфармацыйнае літаратуры пра Беларусь.

У падрыхтоўцы ды абслугоўваньні фэстывалю сёлета ўзялі ўдзел сп.сп. М. Тулейка, М. Сенька, В. Цярпіцкі, А. Міцкевіч, А. Шукелайць, П. Кажура, а. Васіль Андрэюк зь сям'ёю, сп-ні Н. Кудасава, В. Рагалевіч, А. Орса-Рамана, сп-тва Кольбы, Русакі, Кіпелі, Рагалевіч-Дутка, Юрка Кіпель.

Сёлета фэстываль наведала панад 25 тысячаў асобаў, сярод якіх былі Беларусы з шасьцёх штатаў ды суродзічы зь Беласточчыны й БССР. Газэта The Jersey Journal (25.IX) зьмясьціла вялікі прыгожы фатаздымак беларускае папараці Надзі Кудасавай.

Арганізатары фэстывалю шчыра дзякуюць сп-ням Аляксандры Сямёнавай, Лізе Літаровіч, Зоры Кіпель, Веры Бартуль, Марыі Верабей, Надзі Кудасавай ды Ірэне Рагалевіч за нарыхтаванае печыва, прыбытак з продажу якога, 96 дал., ахвяруецца на дапамогу суродзічам на Беласточчыне.

## НА ФЭСТЫВАЛІ Ў ПЭНСЫЛЬВАНІІ



*Беларускі стэнд на фэстывалі. Фота Н. Кудасавай.*

Ад 12-га да 15-га кастрычніка ў гор. Кінгстане адбыўся 14-ы гадавы міжнацыянальны фэстываль усходніх акругаў Пэнсыльваніі, у якім у ліку каля 20-х этнічных групаў узялі ўдзел і Беларусы. Дзякуючы працы сем'яў Анатоля й Галіны Кучураў ды Алекса й Марыі Бычкоўскіх, якія належаць да мясцовага фэстывальнага камітэту ды наагул рэпрэзэнтуюць Беларусаў-Амэрыканцаў у гэтай мясцовасьці, да ўдзелу ў фэстывалі было запрошанае Беларускае Мастацкае Таварыства, якое дапамагло арганізаваць выставачныя стэнды. Беларуская выстаўка, адна з найлепш аформленых, мела дзясяткі вырабаў народных умельцаў вышыўкі, інкрустацыі, разьба па дрэве ды шмат кэрамікі. Былі выстаўленыя таксама беларускія друкі, раздавалася англамоўная інфармацыйная літаратура пра Беларусь. Беларускія стэнды абслугоўвалі сп-твы Кучуры, Бычкоўскія, Ірэна й Мікола Дутка, Вітаўт і Зора Кіпелі ды сп-ня Надзя Кудасава, якая дэманстравала беларускае прадзеньне, дала колькі інтэрв'ю мясцоваму друку ды была зьнятая для тэлевізійнай праграмы.

У нядзелю адным з асноўных пунктаў эстраднае праграмы было вельмі ўдалае выступленьне беларускага танцавальнага гуртка «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Рамана.

Удзел Беларусаў у фэстывалі быў адзначаны ў мясцовым англамоўным друку.

# АДВЕДЗІНЫ ЕВАНГЕЛІСТАЎ У БССР

У травені й чэрвені сёлета мы з жонкай мелі вялікі гонар адведаць Беларускае Брацтва Евангельскіх Хрысьціянаў-Баптыстаў у БССР. Перш за ўсё павінен адзначыць, што на падставе ўсяго, што мы бачылі й чулі, перабудова савецкага жыцьця і грамадзтва працягвае разьвівацца. Мне здалося, што ў палітычным жыцьці адчуваецца большая мера свабоды, людзі свабадней выказваюць асабістыя погляды й паняцьці. Гэта асабліва яўна паказалася ў тым, што на сваёй сэсіі ў Маскве выбраныя дэмакратычным спосабам народныя дэпутаты свабодна выступалі і сумленна падымалі ўсялякага роду пытаньні, зьвязаныя са станоўчымі і адмоўнымі бакамі жыцьця ў Савецкім Саюзе, ды, як ведама, гэта ўсё адкрыта паказвалася па тэлебачаньні і перадавалася па радыё. Да гэтага менавіта і зводзіцца паняцьце галоснасьці і, яна, як мне здаецца, можа мець толькі найлепшыя вынікі для савецкага народу хаця не без сваіх нармальных цяжкасьцяў.

Палітыка галоснасьці й дэмакратызацыі таксама адбіваецца і на рэлігійным жыцьці. Амаль што ўсе нашыя кантакты былі з братамі й сёстрамі па веры, Беларусамі евангельска-хрысьціянскага, баптысцкага перакананьня і веравызнаньня. Ад іх мы ня раз чулі, што цяпер, як ніколі раней, адкрываюцца ім новыя магчымасьці паказваць людзям і растлумачваць няверуючым сваю веру і духоўнае служэньне. Напрыклад, увесну гэтага году ў Менску была дадзена хору Менскай царквы евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў магчымасьць выступіць у народным зале з поўным канцэртам хрысьціянскага духоўнага сьпеву. Гэты канцэрт быў абвешчаны афішамі ў розных пунктах па ўсім горадзе, і публіка, якая прыйшла слухаць сьпеў царкоўнага хору, засталася ў захапленьні ад пачутага. Апрача таго, нас абрадавала вестка, што члены цэркваў цяпер могуць свабодна раздаваць і сапраўды раздаюць людзям запросіны на адведваньне набажэнстваў у малітоўных дамах.

Было нам таксама цікава глядзець каля малітоўнага дому Менскай абшчыны евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў, як мясцовыя веруючыя прыймалі і ўносілі ў падвал царквы тысячы экзэмпляраў духоўных кніг, якія толькі што прыбылі на грузавіку ад адной хрысьціянскай арганізацыі ў Заходняй Нямеччыне. Для мясцовых веруючых гэта было нешта зусім новае: столькі духоўнай хрысьціянскай літаратуры атрымаць зара́з! Яўна, што многія няверуючыя ў Саюзе цяпер праяўляюць надзвычайнае зацікаўленьне ў Бібліі і рэлігійных пытаньнях. Нашыя браты і сёстры па веры прыкладаюць усё стараньне, каб задаволіць гэтую патрэбу, але, відаць, патрэба ў хрысьціянскай духоўнай літаратуры будзе трываць яшчэ доўга, доўга.

Мы з жонкай Люсяй прыехалі ў Беларусь як госьці Беларускага Брацтва Евангельскіх Хрысьціянаў-Баптыстаў. Я ўжо другі раз прыехаў у такой якасьці. Мы абое з глыбіні сэрцаў шчыра дзякуем беларускаму рэспубліканскаму прэсьвітэрскаму савету за мілыя запросіны і за ветлівую заклапочанасьць. Дзе-б толькі ні былі, мы заўсёды адчувалі глыбокую рупнасьць і братэрскую любоў. Я асабіста адведаў 15 абшчын, а ў тым ліку жонка адведала са мной 9. Мы пабачыліся зь веруючымі ў Манькавічах, Брэсьце, Кобрыне, Менску, Вульцы Лунінецкага раёну, Гомелі, Рагачове, Валожыне, Ваўкавыску, Горадне, Лідзе, Барысаве, Оршы і Віцебску.

У кожнай абшчыне мы сустрэлі братоў і сясьцёр, зь якімі мы раней твар у твар ня бачыліся, хоць многія казалі, што слухаюць нашыя духоўныя перадачы, і дзякавалі нам за іх. Нам заўсёды давалася магчымасьць перадаць прывітаньні і служыць Словам Божым, што я ўчыняў на беларускай мове.

Амаль што ў кожнай абшчыне нешта новае чакала нас: новая радасьць, новае паведамленьне, новыя для нас людзі. Падыходзілі веруючыя, якія памятаюць маіх бацькоў, і як прыемна было чуць ад братоў і сёстраў нешта новае аб мінулым жыцьці і духоўным служэньні мамы і таты. На набажэнствах людзі навярталіся да Хрыста. Пры канцы багаслужэньня адна ці некалькі душаў выступалі на пакаяньне і прыняцьце Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля. У Гомелі 10 душаў выйшла на пакаяньне, за што вечная слава Госпаду. Было цікава таксама назіраць за тым, як на багаслужэньні ў Гомелі прысутнічалі маладзежны хор і духавы аркестр з Бранску.

Мне былі прадстаўлены яшчэ іншыя цікавыя сустрэчы, якіх я проста не чакаў. Напрыклад, прадстаўнікі арганізацыі «Радзіма» ў Менску запрасілі нас адведаць іх і правесьці каля гадзіны ў прыемнай размове. Было іх чатырох. Мы абмеркавалі розныя пытаньні аб магчымасьці бліжэйшай сувязі паміж Беларусамі, якія жывуць у Канадзе ды іншых заходніх краінах, і Беларусамі ў БССР. Таксама было так прыемна сустрэцца з сакратаром Менскага гаркому партыі і зь вядомым беларускім пісьменьнікам Барысам Сачанкам, супрацоўнікам газэты «Літаратура і мастацтва». Мне асабліва спадабалася сустрэча з дырэктарам і ягоным намесьнікам Савету па рэлігійных справах, на якой мы пачулі цікавыя даныя і агульную інфармацыю пра Беларусь, як і пра іхнюю працу з усімі рэлігійнымі групамі БССР. Была дадзена нам магчымасьць адведаць цэнтар Беларускага тэлебачаньня ды сустрэцца зь вядомай беларускай пісьменьніцай Вольгай Іпатавай, якая рыхтуе вельмі папулярную беларускамоўную тэлеперадачу «Ліра». Яна ўзяла ад мяне інтэрв'ю, якое пазьней увайшло ў склад перадачы. Асабліва прыемна было зь ёй свабодна гаварыць па-беларуску. Яшчэ дастаткова цікавай аказалася сустрэча зь вядомай па ўсёй Беларусі асобай, Ермалюком Юр'ем Канстанцінавічам, камэнтатарам Дзяржтэлерадыё БССР, які ўзяў у мяне інтэрв'ю для свае радыёпраграмы. Я застаўся асабліва задаволены яшчэ адной сустрэчай — з групай маладых Беларусаў-студэнтаў. Было нас усіх каля 30 чалавек. Сустрэча адбылася ў малітоўным доме Менскай царквы евангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў, і нашая размова закранула тэму асноваў хрысьціянскай веры й жыцьця. Кожнаму прысутнаму, які ня меў свайго ўласнага экзэмпляра Сьвяшчэннага Пісаньня, было дадзена Евангельле.

Прыгадваю яшчэ адну сустрэчу — зь вядомым беларускім пісьменьнікам і перакладчыкам Васілём Сёмухам. Мы зь іншымі братамі Менскай царквы правялі прыемна вечар, дзе быў і сп. Сёмуха. Яму даручана рыхтаваць новы пераклад Бібліі ў сучасную беларускую мову, і ён гэтым сур'ёзна займаецца. Пры сустрэчы ён паведаміў нам, што ўсе евангельлі і Дзеяньне апасталаў перакладзеныя ўжо і цяпер ён бярэцца за працу над лістамі апасталаў. Нашыя браты, як і праваслаўныя, бяруць удзел у праверцы перакладу. Бязумоўна, нам Беларусам, патрэбен якасны сучасны пераклад Бібліі.

**Юрка Рапэцкі**

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

## ЦАРКОЎНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ

У нядзелю 8-га кастрычніка царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай была перапоўненая вернікамі, што прыбылі на архірэйскую багаслужбу ня толькі з Саўт-Рывэру й ваколіцаў, але й з далёкіх Таронта, Чыкага, Вашынгтону, Вірджыніі, Тэксасу. Урачыстасьць багаслужэньня ўзначаліў Першагіерарх Украінскае Царквы ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату Ўладыка Ўсевалад. Сьвяткаваньне адбылося напярэдадні Пакроваў (14.X) з нагоды скліканага Радай Беларускае Праваслаўнае Царквы Паўночнае Амэрыкі на 7-га кастрычніка сабору беларускіх парафіяў, што належаць да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха. Да гэтае падзеі, арганізаванае стараньнямі настаяцеля саўтрывэрскае парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкае а. Мячыслава Брынкевіча, было прымеркаванае й высьвячэньне іконы Сабору беларускіх сьвятых, намаляванае здольным іканапісцам а. Канстантынам Бандаруком з Чыкага (рэпрадукцыю падобнай іконы гл. ў «Беларусе» № 350).

Хоць заплянаванага на сыботу сабору парафіяў не адбылося, рэшта ўрачыстасьцяў прайшла вельмі ўдала. У сыботу Ўладыка Ўсевалад адправіў у суслужэньні ўрачыстую «ўсеначную». Назаўтрае-ж архірэйская багаслужба прайшла надзвычай урачыста. Выдатна сьпяваў хор пад кіраўніцтвам рэгента А. Скаўронскага. Красамоўную й глыбокую зьместам пропаведзь сказаў а. Канстантын на тэму беларускіх сьвятых ды іхнае ролі ў духоўным жыцьці народу, у станаўленьні нацыянальнае культуры й сьведамасьці.

Зь цёплымі словамі дабразычлівасьці й блаславенства зьвярнуўся да вернікаў Уладыка Ўсевалад, якому была падараваная ікона Божай Маці работы а. Бандарука і вышываны рукамі маці а. Мячыслава ручнік, на якім выпісанае імя патронкі прыходу ейнага сына — сьв. Еўфрасіньні.

Ікона Сабору беларускіх сьвятых, упрыгожаная тонкае работы вышываным ручніком і пастаўленая пасярэдзіне царквы на падвышэньні, сымбалізуючы сабой увесь зьмест урачыстасьці, прыцягвала да сябе вочы маленькіх, якія зварачаліся да сьвятых зямлі Беларускае з просьбай: «за




*Ікона Сабору беларускіх сьвятых работы а. К. Бандарука.*

нас малецеся да Госпада, каб мы верай і працай сваёй плён добры прынесьлі».

Пасьля багаслужбы ў залі грамадзкага цэнтру адбыўся банкет, у часе якога быў узьняты тост за здароўе Ўладыкі Ўсевалада, усіх удзельнікаў урачыстасьці ды за дружбу паміж беларускім і ўкраінскім народамі. Сп. Міхась Бахар, які вёў цырымонію, прадставіў аўдыторыі гасьцей, а па смачным абедзе, нарыхтаваным мясцовым сястрыцтвам, сп. Скаўронскі й хор пачаставалі слухачоў канцэртам, рэпэртуар якога складаўся з рэлігійных і сьвецкіх песьняў. Апошняя песьня канцэрту, малітва «Магутны Божа», якую ўсхвалёвана падсьпеўвала спантанічна ўзьнятая на ногі аўдыторыя, завяршыла на эмацыянальнай ноце гэтае прыгожае сьвята.

**З.**

## ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

*Ляймэн, Зах. Нямеччына.* — Тут зь ініцыятывы Інстытуту Беларусаведы і з удзелам гарадзкіх установаў адбылася ў верасьні сёлета выстаўка працаў беларускага графіка Уладзіслава Петрука. На анонсах было напісана: «Першы нямецка-беларускі мост на культурным узроўні». Сп. Петрук — супрацоўнік газэты «Ніва». Заказаў на ягоныя рысункі было шмат — больш за 150 на нейкіх дзесяць тысячаў марак. Пераважаюць заказы гораду, які рыхтуецца да свайго 1200-годзьдзя. Выстаўка адбылася ў прыгожай залі і кошт яе быў пакрыты горадам.

Неўзабаве пасьля выстаўкі Ляймэн наведаў ансамбль «Спадчына» з Маладэчна з чыста беларускую праграмай. Кожны танец, кожная песьня прыймаліся гучнымі воплескамі, выкрыкамі «брава», «біс». Адзін танец давялося паўтараць тры разы. Заступнік бургомістра падыйшоў да мяне ў часе перапынку і сказаў: «Цудоўна! Цяпер горад будзе ахвотна далей падтрымваць маральна Беларускі Музэй і Інстытут Беларусаведы».

**Ю. Попка**

## ЧАРНОБЫЛЬ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СПРАВА

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (30.IX) зьмясьціла вялікі матар'ял пра паглыбленьне чарнобыльскае катастрофы на Беларусі й патрэбу далейшых высяленьняў з заражаных радыяцыяй раёнаў Гомельшчыны й Магілеўшчыны. Газэта піша таксама пра афіцыйны зварот савецкіх уладаў да беларускае эміграцыі з просьбай аб дапамозе грашыма для закупу мэдычнага абсталяваньня.

Газэта, між іншага, зазначае: «У дзяржаве, у якой бурляць нацыяналістычныя рухі, дамаганьні ачышчэньня ад чарнобыльскае радыяцыі сталіся адмысловым беларускім клічам да таесамасьці (identity), справай выкліку цэнтральнаму ўраду, на які дагэтуль глядзелася са страхам і падазраньнем».

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ХМАРА НАД... БРЫТАНІЯЙ

Паводля ангельскае газэты «Дэйлі Тэлеграф» (23.VIII.89), некаторыя брытанскія фэрмэры правінцыяў Кумбрыя Паўночная Валія, Шатляндыя й Паўночная Ірляндыя яшчэ ўсё абмежаваныя ў продажы бараніны. Авечыя стады гэтых фэрмэраў знаходзяцца пад радыялягічным кантролем урадавых інспэктароў. Калі ў мясе радыяцыя вышэй устаноўленае нормы, гэткае мяса абазначаецца нясьціральнай хварбай, каб спажывец ведаў, што́ ён купляе. Ніхто тымчасам ня можа сказаць, калі гэткі кантроль будзе скончаны. Фэрмэрам за кожную кантраляваную авечку Міністэрства сельскае гаспадаркі плоціць 1,30 фунта.

Газэта падае меркаваньне аднаго фэрмэра, што адказнасьць за завышаную радыяцыю па́дае ня толькі на Чарнобыль, але й на айчынную ядзерную энэргетыку да выпрабаваньні ядзернае зброі ў Вялікабрытаніі.

# ПАМЯЦІ КСЕНІ ГРЫГАРЧУК-ТУМАШ

**(5.VIII.1913-25.IX.1989)**

Памерла Ксеня Грыгарчук, палеская кагарка з-над ракі Лясной. Назваў яе так у Вільні недзе ў палове 30-х гадоў студэнт мэдыцыны, пазьнейшы ейны муж і бацька ейных трох дзяцей Вітаўт Тумаш. Чаму кагарка? Ксеніны ініцыялы: К. Г. — Ксеня Грыгарчук. Кагаркамі называў Максім Танк нарачанскіх кнігавак. І Ксеня была тады студэнткай мэдыцыны Віленскага Ўнівэрсытэту, і, як Вітаўт Тумаш, — сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.

Ды пакуль трапіць у Вільню, Ксеня Грыгарчук, родам зь Берасьцейшчыны, вёскі Стойлы, вучылася й закончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах. У тым часе, дзякуючы блаславёным уплывам беларускае дзеячкі Кацярыны Стаўбунік, даволі шмат моладзі з Пружаншчыны вучылася ў Вільні ў Беларускай гімназіі, а пасьля на Віленскім Унівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры, і належала да Беларускага Студэнцкага Саюзу. І гэтак, Ксеня разам са сваёй сяброўкай Валяй Жукоўскай, а пазьней і аўтаркай гэтых радкоў, па заканчэньні Пружанскай гімназіі паехалі ў Вільню на ўнівэрсытэт. Ксеня паступала на мэдыцыну і ёй удалося за першым разам здаць конкурсны ўступны экзамен. Было гэта не абы-якім дасягненьнем. Шмат хто, ня здаўшы першы раз на мэдыцыну, ішоў на хімію, каб за год ізноў прабаваць трапіць на мэдыцыну.

Віленскія часы, а ў іх і сьветлай памяці Ксеня Тумаш, успамінаюцца сяньня як рамантычная казка. Заўсёды неяк сонечна, чароўна было: «'у Саюзе на Завальнай'... назавем паэму гэту. Старшыня ў шахматы грае, скарбнік 'дай, — крычыць, — манэту'...».

У Саюзе на Завальнай... І цяпер чую вясёлы й такі характэрны сьмех Ксені... У Пружанскай гімназіі Ксенька, як яе звалі, нічым асаблівым, здавалася, не адзначалася, а ў Вільні пасьля такіх пасьпяховых экзаменаў, удачаў у навуцы расьцьвіла, як кветка-прыгажуня. Вясёлая, праменная, цешылася папулярнасьцяй у калегаў палеская КаГарка.

Улетку едзем да Ксені над раку Лясную. Стойлы, вёска, дзе жыла Ксеня, мо таму што ў лесе, выдалася нам незвычайнай, таемнай. Папалуднаваўшы ўсе, выходзім на раку. «Замкні-ж дзьверы, Ксеня», напамінаем. «У нас не замыкаюць, нат няма замкоў», быў адказ. «Бо ў нас ня кралі», як кажа Ларыса Геніюш. На Лясной сядаем у пласкадонкі. І ня вёсламі, а доўгімі каламі ўпіраючыся аб дно ракі, плывем уперад. Павучае й перасьцерагае перад небясьпекай нас Ксеня. Перасьцярогі не памаглі. І не агледзеліся, як суседняя лодка скалыхнулася й адна з нас апынулася пад вадой... Ды прыгода закончылася шчасьліва, і Лясная, зялёны луг, жытні палетак і ты, Ксеня, як сонечны ўспамін, застанецеся ў памяці назаўсёды.

Перад самай вайной адбыўся зьлёт беларускіх студэнтаў на Палесьсі, і з намі ізноў была Ксеня.

Пачалася вайна. Ужо на эміграцыі Ксеня выходзіць замуж за др. Вітаўта Тумаша. У Бэрліне яна працягвае вывучаць мэдыцыну, а пазьней і гадуе дачку Яру. Зь Ярай на руках, прытуліўшы яе як найбольшы скарб да грудзей, у часе налётаў бяжыць у сховішчы ад бомбаў. Па вайне сям'я Тумашаў — у беларускім лягеры Ватэнштэце, што ў Ангельскай зоне Нямеччыны. Др. Вітаўт працуе лекарам, а Ксеня гадуе Яру і малога сынка Вітаўта. Вайна і малыя дзеці перашкодзілі ёй закончыць мэдыцыну, а фактычна здаць апошнія экзамены, каб атрымаць дыплём доктара мэдыцыны.



Апошні этап жыцьця Ксені Тумаш у Нью-Ёрку. Тут яна ўзгадавала яшчэ адну дачку, Галіну. Брала ўдзел у беларускім жыцьці, займалася мастацтвам — малявала. Экспанавала свае працы на выстаўках беларускіх мастакоў у Нью-Ёрку і Нью-Джэрзы. Ценем пала хвароба на апошнія гады калярытнага Ксенінага жыцьця, што абарвалася 25 верасьня 1989 году ў Нью-Ёрку.

Астанкі Ксені Тумаш спачываюць на беларускім могільніку Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, а дух Яе... можа над ракой Лясной, дзе ка-гаркі пяюць сваё адвечнае Ка-Га, Ка-Га, Ксеня Грыгарчук, Ксеня Тумаш, вечная табе памяць!

Сьветлая і вечная Табе памяць, Сяброўка раньніх дзён, Сяброўка маладосьці!

**Валя і Раіса Жукоўскія**

# ПАХАВАНЬНЕ СЬВ. ПАМ. К. ТУМАШ

30-га верасьня адбылося пахаваньне сьв. пам. Ксені Тумаш. Цела нябожчыцы прывезьлі з Бронксу, дзе напярэдадні адбылося адпяваньне, у Гайленд-Парк, Н.-Дж., у царкву Жыровіцкае Божае Маці. Айцец Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду. У хоры, якім кіраваў сп. М. Тулейка, разам з усімі пяяў блізкі сябра сям'і др. Вітаўта Тумаша сп. Пётра Конюх, які прыбыў з Канады.

Над магілаю на могільніку ў Іст-Брансьвіку прамаўляў сп. Антон Шукелайць, таксама блізкі сябра сям'і Тумашаў, які ведаў нябожчыцу яшчэ студэнткаю ў Вільні, дзе сьв. пам. Ксеня брала актыўны ўдзел у беларускім студэнцкім жыцьці.

На памінальным абедзе ўспамінамі пра пакойную падзяліліся й сям'і спачуваньні выказалі сп.сп. А. Шукелайць, Ул. Русак і М. Тулейка.

Сп. Тулейка прыгадаў, як сям'я др. Вітаўта й Ксені Тумашаў, прыбыўшы ў Амэрыку, адразу-ж улучылася ў рады свае беларускае арганізацыі, як, перахоўваючы традыцыі, заўсёды ахвоча прыймала Ўладыку Васіля з крашчэнскай вадой, як беражліва захоўвала крыштальную беларускасьць, якую бацькі перадалі таксама дзецям — Яраславе, Вітаўту й Галіне.

## ПРАЦЫ ВІКТАРА ЯРМАЛКОВІЧА

Інстытут Беларусаведы ў гор. Ляймэне ў Заходняй Нямеччыне выдаў ксэракснай тэхнікай тры машынапісаныя працы сьв. пам. Віктара Ярмалковіча: «З ПАДВІЛЕНСКІХ ПАЛЁЎ. Мінулае, выпісы і іншы матэрыял» (213 б.); «ПРАВА І ДЗЯРЖАВА. Аснаўныя паняцьці права з нарысам гістарычнага разьвіцьця дзяржаўнасьці і права Беларусі» (200 б.) і «КРЫВЫ ГОРАД — ВІЛЬНЯ» (53 б.).

# «ПЯЦЬ СТАГОДЗЬДЗЯЎ СКАРЫНІЯНЫ, XVI-XX»

Грунтоўна апрацаваная др. Вітаўтам Тумашам і дабротна выдадзеная пад грыфам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў друкарні Міколы Пruскага кніга (284 бб.) зьмяшчае больш за дзьве з палавіною тысячы, частква анатаваных, бібліяграфічных даведак скарынаведнае літаратуры. Матар'ял разьмешчаны ў шасьцёх разьдзелах: 1. Акты; 2. Кнігі выдадзеныя Ф. Скарынам. 3. Водпісы й падражаньні Скарынавых выданьняў. 4. Скарынаведная літаратура. 5. Ф. Скарына ў літаратуры й мастацтве. 6. Дапаўненьні. Кніга мае англамоўную прадмову і ўвод пабеларуску, паказьнік прозьвішчаў. Бібліяграфія разьмешчаная паводля гадоў публікацыі, а ў межах аднаго году — альфабэтна.

Кніга ў цьвярдым ледарынавым пераплёце з залатымі літарамі на цёмна-бурнатай вокладцы. Гэта адначасна і аўтарытэтны даведнік скарыніяны ад 1492 па 1982 год, і каштоўны падарунак (цана — 35 дал.) кожнаму культурнаму чалавеку.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

Заміж кветак на магілу в.п. Ксені Тумаш складзеныя ахвяры на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:

| | |
|---|---|
| Сям'я Сяргея Дубоўскага | ам.дал. 20 |
| Сям'я Ванды й Міхася Махнача | 30 |
| Сям'я Ніны й Міхася Рагулі | 40 |
| Сям'я Крыстыны й Гэлены Рубік | 50 |
| Марыя й Леў Стагановіч | 50 |
| Антон Шукелайць | 50 |
| Нюра і Ўладзімер Русак | 100 |
| Яніна й Мікалай Касак | 100 |
| Зора й Вітаўт Кіпель | 100 |
| Антон Адамовіч | 100 |
| Янка Запруднік | 100 |
| Усяго | 740 |

***Сямейная хроніка***

У Лявона й Крыстыны Паплаўскіх нарадзілася 8 верасьня дачушка, якой далі імя Оля і якую хрысьціў Архіепіскап БАПЦ Уладыка Мікалай 6 кастрычніка. Хросныя бацькі: Анатоль Кос і Марыя Пурха. Многая лета!

## БЕЛАРУСКІЯ МАЛІТОЎНЫЯ КАРТКІ

Першыя ўгодкі высьвячэньня беларускага памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідляньдзе (Канада), што прыпадалі на 5 верасьня 1989 г., былі адзначаны выданьнем беларускіх малітоўных картак. Гэтыя карткі, што будуць знаходзіцца дзеля пашырэньня ў прошчы ў Мідляньдзе, аддаюць таксама пашану памяці др. Францішка Скарыны, 500-годзьдзе ад нараджэньня якога гэтымі гадамі мы адзначаем. Дакладная дата нараджэньня Францішка Скарыны невядомая. Беларусы Канады гэты Скарынаўскі юбілей сьвяткавалі ў 1985 годзе, у Беларусі й Юнэско ён будзе адзначацца ў 1990 годзе.

На першай бачыне карткі фатаздымак сьвятыні Паўночна-Амэрыканскіх Пакутнікаў і адрас прошчы; на другой — пад фатаздымкам Беларускага памятнага Крыжа зьмешчаная малітва да Збавіцеля Ісуса Хрыста з Малой Падарожнай Кніжкі Францішка Скарыны, перакладзеная ў сучасную беларускую мову а. Аляксандрам Надсонам; на трэцяй — пад абразом Пакутнікаў, між заставіцамі зь Бібліі Скарыны — малітва да Сьвятых Пакутнікаў, перакладзеная з ангельскай мовы паэткай Натальляй Арсеньневай; на чацьвертай — плян, як ехаць у прошчу.

Наступнае паломніцтва да Беларускага Крыжа адбудзецца 16 чэрвеня 1990 году. **Раіса Жук-Грышкевіч**

# ПРЫЗНАНЬНЕ ЗАСЛУГАЎ ДР. В. ТУМАША

Рэцэнзуючы фундамэнтальную публікацыю выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя», энцыкляпэдычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», беларускі навуковец Уладзімер Казьбярук зьвярнуў увагу на факт прамоўчаньня ў даведніку скарынаведных досьледаў і публікацыяў др. Вітаўта Тумаша, адзін з псэўданімаў якога — Сымон Брага. Казьбярук піша («Полымя, 1989, № 6, б. 192):

«Сымон Брага, вядома, не называецца зь ідэйных меркаваньняў. Ён пры любой нагодзе крытыкуе культурную палітыку ў Савецкай Беларусі. У цэлым-жа ён у адносінах да нашай краіны і да нашага народу непараўнана больш ляяльны за Брукнэра, якому прысьвечаны спэцыяльны артыкул, хоць у скарыназнаўстве прыкметнага сьледу не пакінуў. (...)

«У працах Брукнэра шмат зьвестак па гісторыі старой беларускай літаратуры, прытым ня ўсе яны нашым літаратуразнаўствам засвоены. Нам неаднаразова давядзецца на яго спасылацца. Але што да скарыназнаўства, то Сымон Брага ў многія сотні разоў больш зрабіў за Брукнэра. І чаму-б гэта ня ўлічыць?»

## БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ ЛЕКЦЫІ

Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане ў бягучым акадэмічным годзе правядзе наступную сэрыю лекцыяў:

«Выправаваньне прэсы: тры крытычныя тыдні ў 1988 годзе» (праф. Лёнданскага ў-ту А. МакМілін, 9.XI.89); «Стаўленьне Юзэфа Мацкевіча да Беларусі» (др. Ц. Семашка, 18.I.90); «Польскія эміграцыйныя пісьменьнікі зь Беларусі» (сп-чна Н. Тайляр, I.1.II); «А. Патабня (1835-91) і Беларусь» (сп-чна Н. Керэчук зь Лёнданскага ў-ту, 3.V.); «Галоснасьць і Беларусь: агляд падзеяў і публікацыяў» (сп. Дж. Дынглі зь Лёнданскага ў-ту, 7.VI).

## «БЕЛАРУСКІ ДУХОЎНЫ СЬПЕЎНІК»

Апрацаваная А. Клімовічам і Г. Піхурам, выйшла першая частка «Беларускага духоўнага сьпеўніка» з абазначэньнем месца й гадоў выданьня: Вільня-Лёндан, 1980-1989. У гэтай публікацыі Камітэту Беларускіх Каталікоў на чужыне зьмешчаныя ноты й тэксты 13 рэлігійных песьняў. Тэксты пераважна перакладаныя з даваеннага, а некаторыя й з дарэвалюцыйнага часу. Мэлёдыі традыцыйныя ў музычным апрацаваньні М. Куліковіча-Шчаглова, Г. Піхуры, А. Клімовіча, К. Галкоўскага і іншых.

## «ГОЛАС ЧАСУ»

У Лёндане (Ангельшчына) выйшаў першы нумар (ліпень-жнівень 1989) царкоўна-грамадзкага часапісу «Голас часу». Рэдакцыйная калегія новага выданьня была абраная на сходзе парафіі царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане. Рэдактар — Ю. Весялкоўскі. Часапіс задуманы як двумесячнік. Выданьне машынапіснае.

Зьмест першага нумару: Мікалай Гаховіч — Тысячагодзьдзе хрысьціянства на Беларусі; Ю. Весялкоўскі — Хрысьціянства ад Галілеі да Беларусі; Дзеці Ізраіля; М. Белямук — Што да гэрбу Пагоня; А. Крыжаноўскі — Што там, за небясьпечнай зонай (пра Чарнобыль); Ю. Весялкоўскі — Галоснасьць галосіць, а ўлада тармозіць; Ю. В-скі — Шумяць толькі верхавіны (верш); хроніка зь беларускага жыцьця ў СССР.

# ЧАМУ ДЗЯДЗЬКА ЯЗЭП УСЁ КРОЧЫЎ І КРОЧЫЎ

**Ад Рэдакцыі:** *У савецкіх даведніках пад датай сьмерці мастака й культурнага дзеяча Язэпа Драздовіча падаецца адно год — 1954 — знак рэпрэсіі й сьмерці ў зьняволеньні. Таму й літаратура пра Драздовіча гэткая скупая, хоць пра яго, у нармальных абставінах, маглі-б быць напісаныя і манаграфіі і аповесьці. Дзеля гэтага мы з удзячнасьцяй зьмяшчаем успамін пра Драздовіча чалавека, што ведаў яго зблізка.*

Хоць ад тых часоў мінула ужо больш як 60 год, але «Дзядзька Язэпа» Драздовіча я памятаю нібы бачыў яго толькі ўчора. Бо яшчэ й сёньня перад маймі вачыма стаіць ягоная пастарэчаму прыгорбленая постаць: сіваватыя валасы, сінія вочы й падзіцячаму ветлая ўсьмешка. Памятаю таксама ягоны сукаваты кіёк, цёмную сялянскую сьвітку і белую зрэбную торбу перавешаную праз плячо. Але не падумайце, што ў гэтай торбе ён насіў якуюсь еміну — у гэтай торбе былі заўсёды толькі разьбярскія прылады, а таксама прыдатныя да разьбы кавалкі дрэва. З гэтых непадобных да нічога карчакоў і крывулек ён мог напачаканьні выканаць любую рэч, пачынаючы ад скульптурнага партрэту абдараванай ім асобы і канчаючы дзіцячымі цацкамі-забаўкамі. Апрача гэтага там знаходзіліся і прылады да рысаваньня й маляваньня, бо Дзядзька Язэп быў таксама і мастаком. Апрача гэтага ён, здаецца, пісаў кароценькія гумарыстычныя вершы, зьмяшчаныя ў гумарыстычных часапісах: «Муха», «Авадзень» і «Маланка».

Але найбольшай ягонай дабрачыннасьцяй, здаецца, была бязьмерная любасьць да Бацькаўшчыны й ейнага Народу.

У пачатку 1920-х гадоў ён ці ня першы толькі на Наддзьвіньні быў заснаваў беларускую школку, дзеля чаго ў далейшым ня меў на роднай зямельцы сталага прыпынішча, а ўсё павінен быў крочыць і крочыць... Да гэтага прычынілася яшчэ й тое, што Драздовіч нідзе і ні пры якіх абставінах не гаварыў папольску і заўсёды паўтараў: «Тут беларуская зямля і я маю права гаварыць пабеларуску».

Трэба яшчэ дадаць, што Драздовіч быў веруючым і практыкуючым каталіком, і гэта яшчэ больш разьюшвала польскіх «культуртрэгераў», для якіх беларуская мова была «хамскай».

Больш вобразна аб гэтым напісаў паэт Аляксей Марачкін у сваім паэтычным нарысе «Дзядзька Язэп», зьмешчаным у газэце «Літаратура і мастацтва» ад 17 сакавіка 1989 г. (№ 11).

Пасьля таго як Гарманавіцкія гмінныя ўлады зачынілі «нелегальную» Драздовічаву школу, Дзядзька Язэп не адразу паддаўся — ён яшчэ пэўны час навучаў у ёй, толькі зьмяніўшы праграму. Цяпер афіцыйна ён вучыў сваіх вучняў рысаваньня, а неафіцыйна знаёміў іх зь гісторыяй Літвы-Беларусі, пачынаючы ад прадгісторыі — адтуль вось і гэтыя словы паэта: «Пярунавы стрэлы над пушчай грымелі»... Але верныя служкі тагачасных праваднікоў санацыйнай Польшчы — Ялбжыкоўскіх, Бацянскіх, Музычкаў і розных яшчэ там Косткаў-Бернацкіх — выныхалі аб ягонай працы, і Дзядзька Язэп павінен быў скрыцца.

Дый мала таго, яму далі падпісаць дакумэнт-дэкрэт, згодна якога ўсе асобы бяз польскага грамадзянства ня мелі права пражываць даўжэй як колькі тыдняў (ліку дакладна не памятаю) у прыгранічнай паласе — 100 км ад мяжы. Гэткая асоба павінна была перабірацца на новае месца і там старацца аб прыпісцы (замэльдаваньні). За мае памяці ў маёй аколіцы гэткаму ўзапраўды нялюдзкаму пакараньню, і то без правіны, падпадалі дзьве знаёмыя мне асобы. А было іх напэўна больш, але я ведаў толькі Дзядзьку Язэпа і доктара Ўсевалада Шырана. Доктар Шыран быў у непараўнальна лепшым паложаньні як Дзядзька Язэп, бо ён меў грошы і гэта дапамагала яму змагацца са спадкаемцамі расейскіх чынадралаў, якія толькі што вырваўшыся з-пад іхняе апекі, самі рабілі тую-ж работу.

Дык вось доктар Шыран рабіў гэта вельмі проста: ён меў дзьве кватэры і амбуляторыі — адну ў Лужках, а другую ў Гарманаве, і калі качнаўся ягоны тэрмін, ён папросту пераяжджаў з адное свае кватэры на другую. З прыпіскай ён ня меў ніякіх клопатаў, бо гмінныя ўлады палагоджвалі гэтыя фармальнасьці неадкладна, з узгляду на тое, што на візыт у др. Шырана трэба было часамі чакаць і некалькі тыдняў. Горш было Дзядзьку Язэпу, бо па скончаным тэрміне ён быў змушаны крочыць і крочыць... І вось ягоным маршрутам былі амаль тыя самыя сьцежкі «паміж Мнютай і Аутай».

Звычайна яны пачыналіся ў тэй-жа апяянай паэтам Марачкінам вёсцы Сталіцы, дзе сяляне хоць і ня былі вельмі заможнымі, але зь Дзядзькам гатовыя былі падзяліцца апошнім кавалкам хлеба. Далей ён пераходзіў у засьценак Ляскова, дзе заўсёды меў прытулак у сем'ях Атрахімовічаў, Балошкаў і Пронькаў. Адтуль ён звычайна пераходзіў на другі бок ракі Ауты ў Язьненскую гміну ў в. Кухцінцы, дзе затрымоўваўся ў сям'і былога пасла-грамадаўца Пётры Мятлы, атдуль-жа шыбаваў у фальварак Забалоцьце да сям'і Протасаў, дзе звычайна затрымоўваўся на даўжэйшы час. З Забалоцьця ізноў-жа падаваўся на захад, пераходзячы з малымі затрымкамі Лужацкую гміну і раку Мнюту (якую, між іншым, ён вельмі ўпадабаў), адтуль з малымі затрымкамі кіраваўся на захад, дзе ў сутыку трох гмінаў: Лужацкай, Залескай і Гарманавіцкай, у вёсцы Летнікі, жыў ягоны задушэўны сябра, таксама шчодра абдзелены талентамі чалавек, Янка Пачопка, і там прабаваў затрымацца на даўжэй, калі на гэта дазвалялі абставіны, у цёткі ўсімі намі паважанага Віталя Кажана, сп-ні Клаўдзіі Кажан, якая на тыя часы лічылася даволі асьвечанай асобай, бо скончыла Маскоўскую Жаночную Гімназію. У ейнай хаце Дзядзька Язэп быў заснаваў сваё мастацкае атэльле, дзе пасьля яго засталося некалькі абразоў, а між імі, здаецца, і партрэт гаспадыні.

Дык вось чаму і дзе Дзядзька Язэп усё крочыў і крочыў... Пражыў гаротнае жыцьцё ў санацыйнай Польшчы, а пазьней і пад Саветамі яму, здаецца, таксама ня было «вельмі соладка», хоць-бы з узгляду на ягоны «буржуазны нацыяналізм». Бо не здарма-ж яго звалі Пагонічам зь лёгкай рукі і нядобрай памяці ўкраінскага рэнэгата, а графскага слугі С., які слова «Пагоня» пераіначыў на «погоныч».

Сёньня, падобна, у былым маёнтку графа Плятэра, а таксама ў саўгасе Гарадзец заснаваны музэй імя Язэпа Драздовіча, вернага сына Беларусі і Наддзьвіньня. Я ўжо з прычыны веку й фізычнага стану не спадзяюся ўбачыць гэты музэй, але перад сьмерцяй буду маліцца аб тым, каб разбудова гэтага музэю была даведзена да канца.

А яшчэ: усе тыя, хто ведаў Дзядзьку Язэпа, павінны быць шчыра ўдзячныя паэту Аляксею Марачкіну за ягоны паэтычны нарыс пра гэтага ўзапраўды Вялікага Чалавека й Беларуса.

**Васіль Сініца**

*Ліст у Рэдакцыю*

# ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЭМІГРАЦЫЮ Ў ГАЙНАЎСКІМ МУЗЭІ

Навязаная апошнімі гадамі лучнасьць паміж беларускай эміграцыяй і Беларусамі Беласточчыны ўсё ўзмацняецца. Прыкладам гэтага — абмен мастацкімі калектывамі («Дубіны», «Васілёк»), навуковае супрацоўніцтва (удзел у канфэрэнцыях, студэнцкія ступэндыі) ды звычайныя сяброўскія візыты. Важны фактар таксама — матар'яльная дапамога Беластоцкаму краю. З увагі на ненатуральную розьніцу ў вартасьці заходніх валютаў і няшчаснай польскай залатоўкі, дапамога гэтая можа быць істотнай нават пры параўнальна сьціплых магчымасьцях нашага зямляцтва на чужыне. За гэтую дапамогу і ахвярнасьць належыцца ўдзячнасьць, але таксама адчуваецца патрэба нечым адплаціць.

Адным з аб'ектаў, на які кіруецца дапамога эміграцыі, стаўся Беларускі Музэй зь ягонай нешчасьлівай назвай «Музэй Помнікаў Беларускай Культуры і Рэвалюцыйнага Руху» (Дарэчы, трэба сказаць, што назва гэтая ня ўсім на Беласточчыне падабаецца. Для прыкладу, студэнты адразу выступалі супраць яе. Цяпер зьмена палітычнай атмасфэры дазваляе мець надзею, што і назву можна будзе памяняць, і будзе яна, так як сапраўды кажуць людзі, г.зн. «Беларускі Музэй»).

Незважаючы аднак на ўсё, дапамога ў пабудове Музэю — ідэя карысная. У выніку энэргічнай акцыі, пачатак якой даў старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, на Музэй было пераказана ўжо больш за 10 тысяч даляраў з самых Злучаных Штатаў. Выглядае, што грошы гэтыя выкарыстоўваюцца правільна: Музэй памалу, але пастаянна расьце.

Вядома, што сродкі на пабудову складаюць таксама ахвяры беластаччанаў, дзяржаўныя датацыі, а нат, у апошнім часе, грошы ад Беларусаў з Савецкага Саюзу. Музэй — гэта справа агульнабеларуская і таму будаваць яго трэба разам.

З другога боку, Музэй павінен таксама служыць усім.

Эміграцыя за сваю больш чым саракагадовую гісторыю мае шмат дасягненьняў. Выдадзена было сотні кніжак і дзесяткі часопісаў. Дзейнічалі мастацкія калектывы і навуковыя ўстановы. Арганізаваліся фэстывалі і мастацкія выстаўкі. Пастаянна папулярызавалася імя Беларусаў ў сьвеце. Пра ўсё гэтага захавалася шмат дакумэнтацыі, але, на жаль, ня было створана месца і ўмоваў для іх паказу.

Жыцьцёвыя сілы эміграцыі гаснуць. Другое й трэйцяе пакаленьні, нават калі захоўваюць нацыянальную сьвядомасьць, ня ўключаюцца ўжо актыўна ў дзейнасьць. Сьціплы музэй, які існуе пры Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, у аніякім выпадку ня можа задавальняць нас, а ідэя беларускага музэю ўАмэрыцы ўсё яшчэ застаецца ідэяй. Ставіцца дзеля гэтага пытаньне, ці не выпадае нам, Беларусам Беласточчыны, у падзяцы ды ў жэсьце нацыянальнай салідарнасьці, аддаць хоць-бы куточак нашага Музэю для паказу ў ім гісторыі беларускай эміграцыі? Другое пытаньне трэба паставіць суайчыньнікам параськіваным па ўсім сьвеце: што яны думаюць пра такую ідэю? Ці ахвяроўваючы цяжка запрацаваныя грошы, не хацелі-б бачыць нейкага большага адабраньня іхнай ахвяры, чым адно падзяка ў «Ніве».

Здабыць экспанаты ня будзе,бадай, праблемай. Былі-б гэта газэты й часопісы, кнігі й малюнкі, фатаграфіі й запісы музыкі. Лібэралізацыя палітычнага жыцьця ў ПНР павінна таксама паспрыяць больш аб'ектыўнаму асэнаваньню гістарычных падзеяў, бязь «ідэялягічнай барацьбы» і «гістарычных ацэнак». Ажыцьцяўленьне такой ідэі заахвоціла-б эміграцыю да большай ахвярнасьці, а эміграцыі дало-б адзіную ў сваім родзе нагоду паказаць свае дасягненьні на бацькаўшчыне.

Прапаную затым, каб у Беларускім Музэі ў Гайнаўцы знайшлося месца для паказу культурнага жыцьця беларускай эміграцыі ўсяго сьвету.

6 верасьня 1989 г.

**Валяньцін Сельвесюк**

# ХТО СТАЯЎ ЗА ЗАБОЙСТВАМ ВІЛЬГЭЛЬМА КУБЭ?

Выдаваны ў Кракаве польскі месячнік «Знак» (№ 2-3, 1989) зьмясьціў цікавы біяграфічна-палітычны нарыс пра генэральнага камісара Беларусі часоў нямецкае акупацыі Вільгэльма Кубэ. Гэта — вынятка зь вялікае неапублікаванае працы ведамага беларускага гісторыка Юр'я Туронка, які жыве ў Варшаве. Туронкава праца, напісаная папольску, мае загаловак: «Беларусь пад нямецкай акупацыяй 1941-1944 гадоў. Асноўныя палітычныя праблемы».

У тым-жа нумары «Знаку» Марэк Карп, які часта піша на беларускія тэмы, характарызуе працу Туронка як «унікліваю й адважную», «багатую фактаграфіяй» ды, што асабліва важна, пазначаную «заўсёды адчувальным маральным крытэрыем пры фармуляваньні ацэнак».

У нарысе пра Кубэ др. Туронак паказвае нестандартнасьць, як для гітлерца, паглядаў і дзеяньняў Кубэ, ягоныя спрэчкі з больш жорсткімі за яго начальнікамі СС і гестапа вакол пытаньняў палітыкі ў дачыненьні да беларускага й гэбрэйскага жыхарства ды ўрэшце ягоную гібель ад бальшавіцкіх агентак, але нявызнаных падасланых — гестапаўцамі ці партызанамі. Аўтар падае важкія аргумэнты на доказ таго, што ў сьмерці Кубэ маглі быць замяшаныя і эсэсаўскія высокія чыны ў Менску ды ў Бэрліне, якім «генэральны камісар Беларусі» перашкаджаў праводзіць палітыку нішчэньня. Палітыка гэтая ня спрыяла інтарэсам і характару нямецкага народу, як іх разумеў Кубэ.

Праца др. Туронка адзначаецца, апрача ўсяго іншага, грунтоўнай дакумэнтацыяй.

# СЬПЕЎНІК «БЕЛАРУСЬ МАЯ»

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў (БАС) у Беластоку ў супрацоўніцтве з Брацтвам Праваслаўнае Моладзі выдала сьпеўнік пад заг. «Беларусь мая», у якім зьмешчаныя, як сказана выдаўцамі, «нашыя фальклёрныя песьні, песьні нашых паэтаў, якія апявалі наш народ, прыгажосьць нашай зямлі і мовы». У сьпеўніку словы й ноты 45 песьняў. У канцы кніжыцы пададзенае вымаўленьне беларускага альфабэту для тых, хто ня чытае кірыліцай, а ведае польскую мову.

Выданьне гэтае, бясспрэчна, на часе — цяпер, калі сярод моладзі Беластоцкага Краю назіраецца рост зацікаўленьня беларушчынай. Зборнік няблага аформлены графічна. На жаль, у ім дапушчана ці мала недакладнасьцяў і ў прозьвішчах, і ў тэкстах песьняў.

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*(Заканчэньне; пачатак у №359 і далейшых)*

## АДУКАЦЫЯ І НАВУКА

БНФ «Адраджэньне» канстатуе, што цяперашняя сыстэма адукацыі ў БССР спароджаная камандава-адміністрацыйнай сыстэмай і служыць гэтай сыстэме. Ёй уласьцівая крайняя цэнтралізаванасьць, арыентацыя на зьнешнія паказчыкі, шаблоннасьць мэтадаў навучаньня, уніфікацыйны падыход да навучэнцаў, іх бяспраўнасьць, адарванасьць адукацыі ад традыцыяў нацыянальнай і сусьветнай культуры.

Гэтая сыстэма не разглядае асобу як самастойную каштоўнасьць, ня імкнецца да сумоўя асобаў выкладчыка і вучня, ня ставіць пытаньняў самасьвядомасьці і самавыхаваньня. Пад маральнасьцю яна найперш разумее ляяльнасьць да дзяржавы і яе ідэялёгіі. Асноўная мэта цяперашняй сыстэмы адукацыі і выхаваньня — падрыхтоўка рабочай сілы.

Усё гэта нівэлюе навучэнцаў, паралізуе ініцыятыву, выхоўвае двудушнасьць, грамадзянскую апатыю, непавагу да культурных каштоўнасьцяў, нацыянальны нігілізм.

1. Становішча можна зьмяніць шляхам гуманізацыі і дэмакратызацыі школы і ўсёй сыстэмы адукацыі. Мэта гуманнай дэмакратычнай школы і адзіны крытэрый ацэнкі яе працы — забесьпячэньне асобе максымальнага разьвіцьця і самарэалізацыі. Зьместам адукацыі і мэтай выхаваньня ў такой школе стануць агульнаэтычныя каштоўнасьці, самапавага, імкненьне да самаўдасканаленьня і самаадукацыі, палітычная культура, эстэтычны густ, сьвядомыя адносіны да свайго здароўя і да навакольнага асяродзьдзя, зарыентаванасьць у асноўных законах прыроды і грамадства, міжчалавечых адносінах, працоўная культура, творчае выкарыстаньне роднай мовы, веданьне моваў суседніх народаў, атаясамленьне сябе з нацыянальнай культурай, падрыхтаванасьць да выбару прафэсіі.

2. БНФ лічыць, што пастаянны абнаўленчы працэс у сыстэме адукацыі больш апраўданы і выгадны эканамічна, чым пэрыядычныя запозьненыя рэформы. Інавацыйная (абнаўленчая) адукацыя, якая-б гнутка рэагавала на зьмены ў грамадстве, магчымая пры ўмове творчай свабоды пэдагога і дэмакратызацыі навучаньня. Такая адукацыя арыентуе на прадбачаньне праблемаў і самастойны пошук іх аптымальнага вырашэньня.

3. Сыстэма адукацыі мусіць уключаць стандартнасьць зьместу, формаў і мэтадаў адукацыі.

4. БНФ перакананы, што для дэмакратызацыі і ўдасканаленьня школьнай асьветы трэба:

— забясьпечыць сувэрэнітэт Рэспублікі ў галіне адукацыі. Менавіта на рэспубліканскім узроўні павінны вызначацца асноўныя прынцыпы арганізацыі адукацыі і зьмест базавай адукацыі. Гэты зьмест павінен быць узгоднены паміж саюзнымі рэспублікамі, а ў рэспубліках арганічна ўваходзіць у кантэкст канкрэтнай нацыянальнай культуры;

— адмовіцца ад манаполіі дзяржавы на адукацыю, забясьпечыўшы магчымасьць арганізацыі каапэратыўных, дзяржаўна-каапэратыўных, хатніх ды індывідуальных формаў навучаньня. За Міністэрствам народнай адукацыі БССР пакінуць функцыі каардынацыйнага навукова-мэтадычнага цэнтру, а таксама органу кантролю за ўзроўнем мінімальнай — базавай — адукацыі і захаваньня нацыянальна-моўных прыярытэтаў;

— забясьпечыць дыфэрэнцыяцыю школаў, іх раньнюю спэцыялізацыю; гарантаваць пэдагогам права выбару зьместу, формаў і тэрмінаў навучаньня, а бацьком і вучням — права выбіраць школу, спэцыялізацыю, пэдагога, а таксама магчымасьць навучаньня экстэрнам;

— перайсьці да дыялёгу пэдагога з вучнем, да мэтадаў пэдагогікі супрацоўніцтва, мастацкай пэдагогікі, мэтаду праектаў, да сьціраньня межаў паміж вучобай, творчасьцю, гульнёй і працай, пазбаўленьня дзяцей страху за магчымую памылку;

— скасаваць дробязную апеку настаўніка; ягонае права на творчасьць павінна ахоўвацца Законам і Саюзам настаўнікаў;

— выдаваць розныя варыянты падручнікаў, праграмаў і мэтодык;

— юрыдычна і фактычна ўраўнаць правы ўсіх дзіцячых і маладзежных арганізацыяў у школе;

— скасаваць вайсковую падрыхтоўку. Яе ролю пасьпяхова могуць выконваць фізкультура і грамадзянская абарона;

— палегчыць уладкаваньне школьнікаў на працу, стварэньне вучнёўскіх каапэратываў.

5. Неабходна ўводзіць інтэгратыўныя (аб'яднаўчыя) курсы навук прыродазнаўчага і гуманітарнага цыкляў. Асобная роля на ўсім працягу навучаньня павінна належаць эстэтычнаму цыклю, трывала зьвітанаму зь гісторыяй і традыцыямі нацыянальнай культуры. Поруч са школамі прыродазнаўчага ўхілу прадугледзець у сыстэме сярэдняй адукацыі навучальныя ўстановы гуманітарнага профілю, а таксама рэспубліканскі навучальны цэнтар для асабліва адораных дзяцей.

6. БНФ выступае за максымальнае зьмяншэньне аб'ёму хатніх заданьняў школьнікаў, унармаванасьць іхнай працы з улікам фізіялягічных магчымасьцяў дзіцячага арганізму, увядзеньне для школьнікаў 5-дзённага ня больш чым 40-гадзіннага рабочага тыдня для кляснай і хатняй працы, з аптымальным рэжымам харчаваньня і фізычных нагрузак.

7. Увесь шлях разьвіцьця пэдагагічнай думкі Беларусі — гэта гісторыя барацьбы за навучаньне на роднай мове і выхаваньне ў кантэксьце свае культуры. БНФ лічыць, што ўсе школы, як і іншыя навучальныя ўстановы, павінны выхоўваць сьвядомых грамадзянаў Рэспублікі. Для гэтага ў праграмах, як беларускамоўных, так і іншамоўных навучальных установаў БССР павінны заняць належнае месца беларуская мова, літаратура і фальклёр, гісторыя, мастацтва, культура, геаграфія Беларусі. Насьпела стварэньне канцэпцыі нацыянальнай беларускай школы.

8. БНФ выступае за абнаўленьне пачатковых і малкамплектных вясковых школаў і за абмежаваньне колькасьці вучняў у гарадзкіх школах да 300-500 чалавек. Гэта паспрыяе захаваньню вёскі як першакрыніцы традыцыйных вартасьцяў і гуманізацыі гарадзкой школы.

9. Асноўным кіраўнічым органам дзяржаўнай школы павінна быць свабодна і публічна абіраная з пэдагогаў, вучняў, бацькоў, прадстаўнікоў грамадзкасьці школьная рада. Рада вызначае стратэгічныя пытаньні дзейнасьці школы і ажыцьцяўляе кадравую палітыку.

10. БНФ лічыць, што цяперашняя сыстэма дашкольнага выхаваньня ў Рэспубліцы, як і ўся адукацыйная сыстэма, нівэлюе асобу, ня спрые выхаваньню ў дзяцей самастойнага мысьленьня, эмацыянальнай культуры. Неабходныя эканамічныя захады для забесьпячэньня ўзгадаваньня дзяцей да трох-чатырохгадовага і старэйшага ўзросту ў сям'і, для памяншэньня колькасьці дзяцей у групах да 10-12 чалавек.

11. Радыкальная эканамічная рэформа павінна ўзбагаціць мясцовыя бюджэты, якія змогуць выдзяляць сродкі на адукацыю, сувымерныя з выдаткамі на яе ў разьвітых краінах.

12. Неабходна аднавіць старадаўнюю беларускую і агульнаэўрапейскую традыцыю аўтаноміі ўстановаў вышэйшай школы: заканадаўча гарантаваць аўтаномію ВНУ, іх экстэрытарыяльнасьць (г.зн. няўмешваньне ў справы ВНУ і падзеі на іх тэрыторыі). Адрадзіць значэньне ўнівэрсытэтаў як буйных асяродкаў грамадзкага жыцьця.

13. Навуковыя і навучальныя ўстановы Рэспублікі паінны мець права наданьня навуковых ступеняў і званьняў, а навукоўцы — права пісаць і абараняць дысэртацыі на беларускай мове.

14. Пажадана ствараць новыя ВНУ ў гарадох Беларусі, якія мелі старажытную адукацыйную традыцыю, у тым ліку адрадзіць унівэрсытэцкую традыцыю ў Полацку, заснаваўшы там Беларускі інстытут гуманітарнай культуры.

15. БНФ лічыць, што насьпела карэнная рэформа беларускай вышэйшай школы, асноўны зьмест якой — пераход ад курсавой сыстэмы да прадметнай, свабода выбару прадметаў і выкладчыкаў. Трэба адрадзіць статус вольнага слухача ў ВНУ (з правам заняць месца адлічанага студэнта пры добрых выніках у вучобе).

16. Вымагае перагляду цяперашняя схаластычная сыстэма выкладаньня грамадзкіх навук у ВНУ. Для дапамогі фармаваньню ў студэнтаў сьвядомай палітычнай пазыцыі і сьветапогляду мэтазгодна выкладаць паліталёгію, палітэканомію з эканомікай і гісторыю філязофіі.

17. Неабходна значна часьцей пасылаць студэнтаў на вучобу за мяжу.

18. БНФ патрабуе забараніць прызыў студэнтаў на тэрміновую вайсковую службу ў часе вучобы. Шляхам да паступовага скасаваньня вайсковага навучаньня ў ВНУ БНФ лічыць:

— дабраахвотнасьць навучаньня на ваенных катэдрах тых, хто адслужыў у войску;

— перадачу вырашэньня пытаньняў вайсковага навучаньня самім ВНУ;

— скарачэньне тэрміну агульных вайсковых збораў.

19. Правы студэнтаў павінен бараніць Студэнцкі саюз, незалежны ад адміністрацыі, дзяржаўных і палітычных інстытутаў. Студэнт ня можа быць выключаны з ВНУ бяз згоды Студэнцкага саюзу. Неабходна забясьпечыць юрыдычнае і фактычнае раўнапраўе розных маладзежных і іншых грамадзкіх арганізацыяў у межах ВНУ.

20. БНФ лічыць, што неабходна распрацаваць новы рэспубліканскі Закон аб адукацыі на аснове прыведзеных меркаваньняў. БНФ падтрымлівае ўсе крокі, ськіваваныя на перабудову сыстэмы асьветы ў БССР у напрамку гуманізацыі, дэмакратызацыі і беларусізацыі.

21. БНФ лічыць, што навука і вучоныя Рэспублікі не адыгрываюць у яе жыцьці той ролі, якую павінны выконваць цяпер, калі менавіта прагрэс навукі і тэхнікі шмат у чым вызначае аблічча сьвету, маральны поступ і матар'яльны дабрабыт чалавека. Навука больш не павінна быць прыдаткам да камандава-адміністрацыйнага мэханізму і паслухмяным выканаўцам яго загадаў. Насьпела неабходнасьць сапраўднай дэмакратызацыі навуковага жыцьця Рэспублікі. Трэба зрабіць абавязковай рэальную выбарнасьць кіраўнікоў навукова-дасьледчых інстытутаў і іх падразьдзяленьняў калектывамі гэтых установаў, забясьпечыць права вучоных свабодна выказваць свае погляды, незалежнасьць навуковых экспэрымэнтаў і ацэнак ад ведамаснага інтарэсу і адміністраваньня, цаніць працу вучоных за канкрэтныя вынікі, ліквідаваць матар'яльную дыскрымінацыю большасьці людзей навукі, адмяніць аплату за званьні члена-карэспандэнта і акадэміка.

22. Выкарыстаньне навукова-тэхнічных дасягненьняў павінна ўлічваць эканамічныя, экалягічныя, культурныя і сацыяльныя аспэкты, адпавядаць інтарэсам грамадства, нацыянальным інтарэсам Беларусі. Мэтазгодна вылучыць і інтэнсыўна разьвіваць у Рэспубліцы менавіта тыя сфэры і кірункі навукі, найперш фундамэнтальнай, дзе ёсьць пэрспэктыва і магчымасьць выйсьці на вядучыя пазыцыі.

23. Цяперашнія формы арганізацыі навуковай дзейнасьці часта гравасткія неэфэктыўныя. БНФ выступае за шырокае стварэньне ў навуковых і навукова-дасьледчых установах Рэспублікі часовых творчых калектываў, здольных дастаткова хутка вырашаць важныя задачы. Такія калектывы павінны стварацца па выніках конкурсу ідэяў і мець прыярытэтнае фінансаваньне.

24. Дзейсная сыстэма пераемнасьці пакаленьняў у навуцы, стварэньне жыцьцяздольных навуковых школаў можа быць забясьпечана пэратварэньнем ВНУ, найперш унівэрсытэтаў, у вядучыя навуковыя асяродкі Рэспублікі. Для гэтага запатрабуецца ўраўнаць фінансаваньне ўнівэрсытэцкай навукі з акадэмічнай, скараціць колькасьць студэнтаў на аднаго выкладчыка, ствараць мяшаныя творчыя калектывы з выкладчыкаў і студэнтаў для вырашэньня канкрэтных навуковых задачаў, у тым ліку выкананьня гаспадарча-разьліковых заказаў.

25. Творчая інжынерная праца, сьмелыя інжынерна-тэхнічныя ідэі павінны стаць асновай багацьця Рэспублікі, артыкулам яе экспарту, гарантыяй рэальнай, адчувальнай у штодзённым жыцьці кожнага, навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Насьпела прызнаньне інжынернай працы творчым заняткам, падвышэньне матар'яльнага статусу інжынераў.

26. Поўная або частковая залежнасьць навуковых установаў ад ваеннага ведамства вядзе да засакрэчваньня новых ідэяў і адкрыцьцяў, пазбаўляе навуковую думку магчымасьці свабодна разьвівацца. Антыгуманныя мэты ваенных навуковых дасьледаваньняў дэмаралізуюць вучоных. Посьпехі ў гэтых дасьледаваньнях не адлюстроўваюцца на людзкім дабрабыце.

БНФ лічыць, што пацяпленьне міжнароднага клімату дазваляе паставіць пытаньне пра пасьлядоўную дэмілітарызацыю навукі Рэспублікі. Неабходна абмежаваць тэрмін сакрэтнасьці навуковых адкрыцьцяў і распрацовак.

27. БНФ лічыць першачарговай задачай радыкальную перабудову гістарычнай навукі і адукацыі БССР. Яе неабходна вызваліць ад штучных вульгарнасацыялягічных схемаў, ідэялягічнай зададзенасьці, комплексу гістарычнай прыніжанасьці і непаўнацэннасьці, боязі складаных пытаньняў. Гістарычная навука мусіць абапірацца на першакрыніцы і засьветчаныя факты, пісаць сапраўдную аб'ектыўную, бязь белых і чорных плямаў, гісторыю Беларусі. Тэрміновa трэба ствараць новыя, аб'ектыўныя падручнікі гісторыі Беларусі для ўсіх відаў навучальных установаў.

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Калі ў каго ёсьць лішнія беларускія кнігі, выдадзеныя на эміграцыі, у тым ліку й ратататарныя выданьні, перашлеце іх, калі ласка, у Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва на ніжэй пададзены адрас. Кнігі гэтыя патрэбныя для Беларусі, дзе на іх вялікі попыт.

BINiM
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070
U.S.A.

***ЗАКЛІК***

## ВЫДАЁМ БЕЛАРУСКІ ЗНАЧОК!

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў пастанавіла выдаць большую колькасьць значкоў зь беларускім нацыянальным сьцягам. Каб пакрыць частку коштаў выданьня, Задзіночаньне зьвяртаецца да ўсіх суродзічаў з просьбай аб фінансавай дапамозе. Вэтэраны, як былыя змагары за лепшую будучыню для Беларусі, хочуць пашыраць сымбаль гэтага змаганьня — бел-чырвона-белы сьцяг. Далучэцеся й Вы да гэтае добрае справы сваёй ахвярай, якую просім пасылаць на адрас:

Asss'n of Byelorussian-American Vets
9 River Rd
Highland Pk, NJ 08904

Жыве Беларусь!

**Галоўная Кватэра**
**ЗАБВ Амэрыкі**

## СЬВ. † ПАМ. ЯН ГРАЛЕЎСКІ

Народжаны 1 сакавіка 1912 г. ў вёсцы Туркі на Віленшчыне. Нябожчык быў сябрам ЗБВБ і актыўным братам БАПЦ ў горадзе Кембрыджы. Жыў у адзіноцтве.

Паховіны адбыліся 8 верасьня 1989 г. ў Кембрыджы на Нью-Маркет Роўд магільніку. Паніхіду адправіў а. Ян Пякарскі. На паховінах ад ЗБВБ былі Я. Міхалюк — старшыня, А. Зданковіч — заст. старш. і Я. Сяўковіч — сакратар.

**Паведамляе Галоўная Ўправа**
**Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі**

## ПАРК НА ЛЮДЗКІХ КАСЬЦЯХ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

але шмат. Садзілі іх у машыны з завязанымі назад рукамі. Ехалі яны стоячы. Цяперашні парк Чалюскінцаў тады быў яшчэ звычайным лесам на ўскраіне Менску. Вось туды, у гэты парк і загадалі ехаць. Аб'ехалі вазерца і павярнулі да ўсходняй часткі парку. Калі стаць на праспэкце тварам да парку, дык гэта будзе зьлева. На палянцы спыніліся. Там ужо была выкапаная яма мэтраў два на чатыры. З машыны вартаўнікі пачалі выводзіць па адным і садзіць на край ямы так, каб былі спушчаныя ногі. Вартаўнікі стралялі ў патыліцу, і чалавек валіўся ў яму тварам уніз. Перад прыездам там пабывала ўжо іншая машына, і яма была напоўненая высока. Калі расстралялі ўсіх з нашага «ворана», дык трупаў напоўнілася па самыя берагі ямы. А іх-жа трэба засыпаць зямлёй і, каб не атрымалася бугра, здаравякі вартаўнікі пачалі гэтыя трупы ўтоптваць. Утрамбоўвалі так, што нават быў чуцён трэск касьцей. Гэткае ўспамінаць жудасна. Пасьля расстрэлу вартаўнікі запівалі работу.

Гэткіх паездак я зрабіў колькі і ўсе да новых ямаў, туды-ж, у парк Чалюскінцаў. Я ўжо казаў, што вазілі туды і іншыя «вораны», дзеля гэтага колькі там магілаў засталося, наўрад ці можна падлічыць. Многа.

Аднойчы, каб прысьпешыць расправу, вартаўнікі вывелі з машыны ўсіх адразу і рассадзілі па краёх ямы. Ахвяры з завязанымі рукамі сядзелі моўчкі. Твараў іхных нельга было разгледзець у цемені. Не дасі веры, ніхто ня крычаў, ня плакаў, нават жанчыны, а былі й яны. Я, паставіўшы машыну, адыходзіў крыху далей і чуў толькі выстралы. Але двойчы прысутнічаў, і не да канца. Гэта першы раз і той раз, калі ўсіх адразу вывелі. Дык вось, сядзяць гэтыя няшчасныя на краю ямы, маўчаць, чакаюць. Відаць, усё-ж да канца не верылі, што на расстрэл іх прывезьлі. І выканаўцы з наганамі ззаду стаяць. А пасьля на загад — узмах рукі старшага — пачалі бахаць. Некаторыя не адразу падалі ў яму, тады ў іх другі раз стралялі і піхалі нагой уніз...

—А ці мог хто і незабіты ўпасьці? Толькі паранены? А пасьля выпаўзьці? Ноч-жв цёмная, — запытаўся я.

— Я чуў, што хтосьці выпаўз зь ямы і, нават быўшы засыпаным, уратаваўся. Але ці праўда гэта, ня ведаю.

— Дык нікога з ахвяраў у твар і не запомніў? — Папытаўся я.

— Запомніў... І цяпер памятаю. Тады з турмы выехалі, калі ўжо ноч канчалася. Прыехалі ў парк, і сьвітаць пачало. Вартаўнікі пачалі сьпяшацца, каб справіцца да сонца. Адчынілі дзьверы «ворана», закамандавалі выходзіць па адным. Я стаю, думаю, пагляджу, хто-ж выйдзе, што за чалавек, а раптам які знаёмы? І што-ж ты думаеш? Выйшаў мой настаўнік беларускае мовы і літаратуры з Плешчаніц. Угледзеў мяне, пазнаў. «Міхась!» — усклікнуў ён, і гэткая надзея ўспыхнула на ягоным твары, так ён засьвяціўся, усьцешыўся: а можа, я і ёсьць той апошні, хто ўратуе яго. «Міхась!» — паўтарыў ён, спыніўшыся каля мяне. — «Ты тут?» Вартаўнік штурхануў яго ў сьпіну і падвёў да ямы, загадаў сесьці, а настаўнік сядзіць, на мяне глядзіць, чакае чагосьці ад мяне — паратунку. Я-ж як абамлеў: ні варухнуцца, ні сказаць што-небудзь. Дый што я мог зрабіць ці сказаць? Вартаўнік ня стаў чакаць, калі настаўнік сядзе, і ўгаворваць ня стаў больш, а выстраліў яму ў высок. Тады я пабег і бег доўга, сам ня ведаючы куды. Чуў, што выстралы спыніліся, што мяне клічуць, мацюкаюцца, ехаць трэба, а я ляжу. Мяне знайшлі, далі па карку. Падарозе старшы вартаўнік стаў мяне супакойваць: «Падумаеш, настаўніка спаткаў. Я свайго цясьця шлёпнуў. Служба ёсьць служба. Ці-ж я знаю, каго мне прывязуць? Бацьку роднага прывязуць і бацьку роднага ў распыл пушчу. Больш на «воране» я ня езьдзіў.

— Адмовіўся?

— Той пастаянны вадзіцель, якога я замяняў, з бальніцы вярнуўся. А я зноў стаў на вуліцы Ўрыцкага, цябе вартаваў.

Мы пайшлі тады ў парк Чалюскінцаў, дзе Міхал Абрамовіч і паказаў мне тую частку парку, дзе трыццатымі гадамі расстрэльвалі людзей. І месца магілаў прыблізна паказаў. Там стаяў якісьці бэтонны слупок, які, як казалі, азначаў, што быццам-бы тут расстрэльвалі нашых людзей Немцы.

Цяпер ня толькі Міхалу Абрамовічу ня хочацца заходзіць у гэты парк, але й я бываю там вельмі рэдка. Надта-ж няўтульна ў ім чуюся. Так і ўяўляецца, што ступаеш па касьцях людзей, па чарапох зь дзірачкамі ў патыліцах. Страшное гэта адчуваньне.

Спадзяюся, што пасьля Курапацкіх магілаў ўрадавая камісія, якая там працуе, зоймецца вызначэньнем месца сталінскіх расстрэлаў і ў парку Чалюскінцаў.

...У дзень свайго арышту — 5 красавіка — я заўсёды іду на вуліцу Ўрыцкага і каля кожнага замураванага ваконца былое турмы кладу па дзьве кветкі ў памяць аб сваіх аднакамэрніках, што тут цярпелі й загінулі. Праўда, кветкам доўга ляжаць не даюць, выходзіць з дому хтосьці ў форме і забірае іх. Навошта, чаго баяцца?

І яшчэ адно. Калі гэтыя нататкі былі ўжо напісаныя, прачытаў у «Известиях» за 28 жніўня (1988 г.) нататку ўласнага карэспандэнта газэты М. Шыманскага «Чьи останки покоятся в лесу под Минском?» Шыманскі як быццамбы сумляецца наконта таго, штó «адбывалася тут у канцы трыццатых-пачатку саракавых гадоў». Што да мяне, дык у мяне асабіста няма ніякіх сумляваньняў. Яшчэ калі я сам сядзеў у нутраной турме НКВД, ужо гаварылі пра Курапаты.

## СЬВ. ПАМ. МЕЧЫСЛАЎ КАНАНОВІЧ

**2.VIII.1932-26.VIII.1989**



Мечыслаў Кананові́ч, сын сьв. пам. Язэпа і Фані (з дому Сак), нарадзіўся ў гор. Навагрдку, дзе атрымаў пачатковую асьвету. Сярэднюю беларускую школу закончыў у беларускім лягеры Ватэнштэце ў Зах. Нямеччыне. Тамжа належаў да беларускага скаўтынгу.

У 1949 г. сям'я Канановічаў выехала ў ЗША, дзе Мечыслаў адбыў амэрыканскую вайсковую службу. Пасьля сям'я пасялілася ў Каліфорніі. У Лёс-Анджэлесе Мечыслаў закончыў на ўнівэрсытэце факультэт электронікі.

Працаваў як інжынер-электронік. Належаў да беларускай танцавальнай групы, якая выступала на беларускіх сьвяточных урачыстасьцях і міжнацыянальных паказах. Быў ён сталым падпішчыкам «Беларуса».

Сьмерць настала прадчасна. Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Клер, дачок Ніну й Кацю, матку Фаню, сёстраў Ірэну й Сабіну ды родных тут і на Бацькаўшчыне.

Пахаваны на каталіцкім магільніку ў Лёс-Анджэлесе.

Суродзічы выказваюць сардэчнае спачуваньне ўсім родным і блізкім сьв. пам. Мечыслава. Няхай будзе яму пухам амэрыканская зямля.

**Ч. Н.**

### *КАЛЯДНЫЯ ВІТАНЬНІ*

Прывітайце сваіх родзічаў, сяброў і знаёмых з калядна-навагоднімі сьвятамі традыцыйным шляхам праз газэту «Беларус». Гэтым Вы падтрымаеце ня толькі добрую традыцыю, але й паможаце касе «Беларуса» (10 дал. за прывітаньне, 25 дал. за прывітаньне ў рамцы).

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### *КАЛІ НЯ ВЫ, ДЫК ХТО?*

***«Беларус» выходзіць толькі дзякуючы падпішчыкам і ахвярадаўцам. Калі да ліку іх не належыце Вы, дык на каго-ж тады спадзявацца тым, хто зацікаўлены ў чытаньні «Беларуса» на Бацькаўшчыне, але пазбаўлены магчымасьці плаціць за газэту?..***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША-КАНАДА**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В. Заморская | 100 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| Г. Шуст | 50 |
| Ф. Сак | 50 |
| Я. Жучка (Бельгія) | 50 |
| Л. Дуржэнка | 50 |
| Н. Вайтовіч | 35 |
| Н. Пракопчык | 30 |
| В. Гезук | 30 |
| М. Клімюк | 30 |
| В. Шчэцька | 25 |
| М. Шуст | 20 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| А. Тэлеш | 12 |
| Усяго | 547 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| І. Гайдэль | 100 |
| Л. Трусэвіч | 100 |
| М. Кумэйша | 40 |
| Н. Гурын | 40 |
| А. Бакуновіч | 30 |
| В. Пляскач | 20 |
| М. Рагалевіч | 20 |
| А. Губэрт | 20 |
| Я. Пятроўскі | 20 |
| Р. Завістовіч | 20 |
| Б. Русак | 20 |
| В. Шмар | 20 |
| М. Грэбень | 20 |
| М. Олійнік | 20 |
| Э. Маркоўская | 20 |
| К. Барысавец | 20 |
| Г. Бахар | 20 |
| Н. Кіпа | 20 |
| Я. Мол | 20 |
| М. К. | 10 |
| Г. Майсевіч | 10 |
| Усяго | 610 |

**ФРАНЦЫЯ**

| | |
|---|---|
| М. Булыга | фр. 50 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| М. Зуй | ам.д. 20 |

**Увага! Увага!**

**ЧЫТАЧЫ Ў КАНАДЗЕ!**

Пачынаючы ад гэтага нумару, газэту «Беларус» у Канаду будзе рассылаць сп. Браніслаў Даніловіч, зь якім трэба й разьлічвацца, пасылаючы чэкі на ягонае імя й адрас:

Mr. B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901
U.S.A.

**Адміністрацыя «Беларуса»**